УДК 821.161.3-1
ББК 64 (4 Беи)
П69

**Пракаповіч, І.**
П69 Пошукі забытага шляху / Ігар Пракаповіч. — Мінск : Кніга-збор, 2011. — 60 с.
ISBN 978-985-6976-30-1??.
У новай кнізе пісьменніка і краязнаўцы Ігара Пракаповіча распавядаецца пра аўтарскую гіпотэзу старадаўняга воднага шляху, які праходзіў праз рэкі Дзвіна, Дзісна, Мядзелка, Нарачанка, Вілія і сістэму Нарачанскіх азёр. Прыводзяцца гістарычная доказы яго існавання, апісваецца школьная экспедыцыя па вывучэнню волакаў на водападзеле ля азёр Мядзел і Мястра, падаюцца звесткі пра цікавыя мясціны на маршруце.
Кніга будзе цікавай і карыснай вучням, настаўнікам, турыстам, краязнаўцам — усім тым, хто любіць вандраваць і адкрываць таямніцы роднай зямлі.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-30-1**


## Таямніцы роднай зямлі

Беларусь — чароўная і таямнічая краіна. І чым бліжэй з ёй знаёмішся, чым глыбей яе вывучаеш, тым больш адкрываеш для сябе яе дзівосную прыродную прыгажосць, яе захапляльную і загадкавую гісторыю. І гэта ёсць у любым куточку нашай краіны, у любой вёсачцы, дзе жылі і жывуць людзі. Але мне, жыхару Нарачанскага краю, здаецца, што самая маляўнічыя і самая таямнічыя мясціны на Зямлі — гэта абсягі паўночна-заходняй Беларусі. Тут раскінулася самае вялікае возера нашай краіны, тут захапляюць сваімі краявідамі высокія ледавіковыя ўзвышшы, даліны звонкіх рачулак, смалістыя пахі векавечных бароў; тут кожны лапік зямлі насычаны памяткамі далёкай і не вельмі далёкай гісторыі.

Цікавасць да роднага краю і стала крыніцай гэтай невялічкай краязнаўчай кніжачкі. Матэрыял для яе паступова збіраўся на працягу апошніх дваццаці гадоў. Спачатку вяліся пошукі розных гістарычных аб’ектаў і памятак гісторыі, што засталіся на нашай зямлі напамінам пра мінулае. Пазней з’явілася цікавасць да водных шляхоў, якія ішлі ў старажытнасці праз Беларусь, асабліва праз яе паўночна-заходнюю частку. Гэта падштурхнула да пошукаў, вынікам чаго з’явілася версія пра існаванне ў мінулым суднаходства праз сістэмы рэк Дзвіны, Дзісны, Мядзелкі, Нарачанкі, Віліі і Нёмана. Вылучаная гіпотэза патрабавала

доказаў, і, каб іх знайсці, летам 2001 года разам са сваімі вучнямі — удзельнікамі навуковага краязнаўчага таварыства «Ювента» арганізавалі і правялі водна-пешаходную экспедыцыю на водападзеле паміж азёрамі Мядзел і Мястра і па рацэ Мядзелка да Паставаў. Вынікам гэтай вандроўкі стаў дзённік кіраўніка, у якім занітаваны асноўныя моманты пошукаў і адкрыццяў.

На нейкі час іншыя краязнаўчыя праекты адцягнулі ўвагу ад воднага шляху і толькі ўвосень 2008 года зноў жа з вучнямі, навучэнцамі Пастаўскай раённай гімназіі, правялі дзве аднадзённыя экспедыцыі па вывучэнню волакаў на водападзеле паміж азёрамі Мястра, Мядзел і Нарач. У час вандровак удалося выявіць і абследаваць некалькі цікавых аб'ектаў і з'яў, якія значна пашырылі і ўдакладнілі веды пра старадаўні водны шлях.

Вось гэтыя матэрыялы і сталі асновай для кніжачкі. Складаецца яна з трох частак, адлюстроўваючы і стадыі рэалізацыі праекта, і пэўныя вынікі на кожным з яе этапаў.

У час збору матэрыялаў і правядзення экспедыцый даволі многа людзей нейкім чынам далучыліся да нашай супольнай працы. Адны дапамагалі справамі, другія — парадамі, трэція — успамінамі. Усе яны заслугоўваюць слоў шчырай удзячнасці за дапамогу. Але тут хацелася б назваць імёны і прозвішчы тых, хто непасрэдна рыхтаваў экспедыцыі і ўдзельнічаў у іх. Гэта вучні: Андрэй Чарэнка, Яўген Громаў, Дзяніс Жук, Алена Красоўская, Люда Курта, Вольга Пракаповіч, Вольга Жалейка, Марыя Свілёнак, Анастасія Пачкоўская, Яўгенія Ганчарова, Валерый Радзівонаў, Сяргей Акелан, Павел Міхасёнак, Віталь Трыфанаў, Аляксандр Каратчэня, Дзмітрый Гутар. У падрыхтоўцы і правядзенні воднай экспедыцыі 2001 года вялікую дапамогу аказалі мой бацька, Міхаіл Аляксандравіч, і брат, Віктар Міхайлавіч Пракаповічы.



Матэрыял па старадаўняму воднаму шляху сабраны, апрацаваны. Напісана кніга. Але пошукі працягваюцца і нас чакаюць новыя адкрыцці. Беларуская зямля — бяздонная скарбніца, якую можна даследаваць і адкрываць бясконца...

## Забыты шлях: нараджэнне гіпотэзы

Беларусь — краіна шляхоў. Розных: гандлёвых і ваенных, чыгуначных і водных, духоўных і матэрыяльных. Усе яны перакрыжоўваюцца і разгаліноўваюцца, утвараючы ўсё новыя і новыя шляхі. У старажытнасці гандлёвыя стасункі паміж рознымі дзяржаўнымі ўтварэннямі, паміж часткамі асобных дзяржаў ажыццяўляліся пераважна па водных аб'ектах — рэках і азёрах.

Уся Еўропа ведае пра вялікі гістарычны водны шлях «з варагаў у грэкі», які ішоў праз нашу краіну па Дзвіне і Дняпры. Пра яго напісаны кнігі, ён занесены ва ўсе энцыклапедыі, яго вывучаюць школьнікі на ўроках. Але ў Беларусі існавалі і іншыя водныя шляхі, можа, не такія адметныя і вядомыя, але даволі важныя, якія адыгрывалі ў свой час пэўную ролю ў жыцці нашых продкаў.

Адзін з такіх забытых гандлёвых шляхоў знаходзіўся ў паўночна-заходняй частцы краіны. Ён праходзіў па рачных сістэмах Дзвіны, Дзісны, Мядзелкі, Нарачанкі і Віліі. Не выключана, што далей ён ішоў і па Вушы, Бярэзіне і Нёмане. Шлях пралягаў таксама праз сістэмы Нарачанскіх і Мядзельскіх азёр.

У гістарычных дакументах ён ускосна згадваецца пад 1579 годам, калі кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый ладзіў ваенную экспедыцыю супраць маскоўскага цара Івана IV Грознага (Жахлівага), войскі якога ў той час захапілі го-

рад Полацк. Паводле крыніц, па загаду караля ў Паставах гарматы былі пагружаны на плыты і па Мядзелцы і Дзісне перапраўлены ў Дзвіну, а адтуль — да Палаты. Можна меркаваць, што ваяводы Кароны і ВКЛ, прымаючы рашэнне аб ваеннай экспедыцыі, толькі скарысталі даўно вядомую і дзейсную водную сістэму.

Пазней, калі ўзрасло значэнне сухапутных шляхоў, водныя прыйшлі ў заняпад і былі забытыя. Высечка лясоў, інтэнсіўная меліярацыя, разворванне зямель у поймах рэк паскорылі працэсы зарастання вадаёмаў, і зараз, гледзячы на некаторыя рэчкі, цяжка ўявіць, што па іх калісьці плавалі гандлёвыя і ваенныя караблі.

Папрабуем на падставе геаграфіі і тапаніміі прасачыць магчымую нітку паўночна-заходняга воднага шляху.

Пачынаючы ён з месца ўпадзення Дзісны ў Дзвіну. Тут мы адразу спатыкаемся аб назву прытока: «Дзісна» мае славянскае паходжанне і азначае «правая», аднак гэты сэнс не адпавядае геаграфічнай традыцыі: у геаграфіі правыя і левыя прытокі вызначаюцца па накірунку рачной плыні. Але, калі мы будзем прытрымліваццa такога погляду, то мусім прызнаць, што Дзісна («правая») з'яўляецца левым прытокам Дзвіны. Можна меркаваць, што назва рацэ даддзена славянамі, якія рухаліся ўверх па Дзвіне і тады для іх яна была сапраўды правай. Гэта тлумачэнне знаходзіць пацверджанне ў працах М. Ермаловіча, які прывёў шэраг доказаў таго, што славяне-крывічы спачатку заснавалі паселішчы ў сярэднім цячэнні Дзвіны, а потым рухаліся ўверх, канчаткова спыніўшыся на Палаце, дзе і вырас Полацк. Адначасова ішло інтэнсіўнае асваенне крывічамі даліны Дзісны. Звяртае на сябе ўвагу высокая шчыльнасць паселішчаў уздоўж гэтай ракі. Па сутнасці, мы назіраем наяўнасць вялікага «вяскова-местачковага мегаполіса» абапал ракі. Гэта з'ява ўскосна сведчыць пра існаванне тут у даўнейшыя часы воднага гандлёвага шляху, бо сама па сабе Дзісна і яе прыродныя багацці не ў стане былі прыцягнуць сюды такую колькасць жыхароў.



Каланізацыя тутэйшага краю крывічамі суправаджалася сутычкамі з мясцовым насельніцтвам, хутчэй за ўсё, з балтамі і угра-фінскімі плямёнамі. Пра гэта сведчыць наяўнасць у паўночнай частцы Пастаўскага раёна адпаведных назваў: Васіліны, Бірвета, Коскі, Мамулі, Кундры, Каз'яны. Да прыходу славян угра-фіны межавалі з балтамі і, магчыма, Васіліны ў стасунках з суседзямі адыгрывалі вельмі важную ролю. Нездарма і сэнс назвы гэтай вёскі сведчыць пра яе мясцовую магутнасць. З угра-фінскіх моў вынікае: «васін» — «крыніца ля ракі», «ліна» — «умацаванае месца, замак» (для параўнання — Та-лін). Такім чынам, Васіліны — «замак на рацэ каля крыніцы». Да сённяшняга часу рэшткаў замка не захавалася, ды і, хутчэй за ўсё, гэта было проста добра ўмацаванае паселішча. І да сённяшняга дня Васіліны з'яўляецца адной з буйнейшых вёсак, што месцяцца каля Дзісны. Ці выпадкова ўзнікла паселішча ў тым месцы, дзе знаходзіцца? Трэба думаць, што не, бо трохі вышэй рака падзяляецца на некалькі рачных сістэм (Бірвета, Мядзелка, Дрысвята) і збудаваны «замак» як бы «закрываў» усе гэтыя сістэмы. Ваенныя і гандлёвыя шляхі ў вярхоўях Дзісны траплялі пад кантроль Васілінскага замка. Падобную ролю адыгрывалі і Каз'яны, якія ўзніклі ніжэй сутокаў Дзісны і Дрысвяты.

З Дзісны «забыты шлях» вёў у Бірвету, а з яе — у Мядзелку. Варта заўважыць, што берагі Мядзелкі таксама заселены даволі шчыльна. Практычна ўсе прыдатныя для жыцця землі абапал ракі занятыя паселішчамі, якія цягнуцца чарадой: Ракіты, Маскалішкі, Мамулі, Койры,

Целякі, Турлы, Валодзькі, Русакі, Рыбчаны, Курты, Хацілы, Заброддзе, Волахі. Можна заўважыць, што назіраецца чаргаванне славянскіх і неславянскіх назваў, што можа сведчыць пра мірнае суіснаванне розных народаў. Паколькі назвы Русакі і, асабліва, Маскалішкі, гавораць пра тое, што жыхарамі-заснавальнікамі гэтых вёсак былі выхадцы з Масковіі, то ўскосна можна сцвярджаць, што гандлёвы шлях існаваў і ў сярэднявеччы.

Яшчэ адным доказам воднага шляху можа быць назва вёскі Волахі. Ёсць некалькі варыянтаў тлумачэння яе сэнсу, але варта спыніцца на адным: «Волахі» — скажоная форма слова «волакі», бо пераход «к» у «х» адбываецца даволі лёгка. А наяўнасць волакаў — гэта прамое сведчанне суднаходства. Ёсць і геаграфічныя перадумовы волаку: вышэй вёскі знаходзяцца сутокі Мядзелкі і Спарыцы, дзе рачныя наносы маглі ўтвараць водмелі, што і вымушала караблі «валачыць».

Мястэчка Паставы на «забытым шляху» мела адметнае значэнне. Ужо ў III–II тысячагоддзях да н. э. тут існавала старажытнае паселішча. У летапісную пару яно мела назву Пасаднік і выконвала ролю фарпоста заходніх межаў Полацкай зямлі, як Браслаў, Дрысвяты ды некаторыя іншыя. Далей у бок Балтыйскага мора славяне прасунуцца не змаглі і задаволіліся захопам Дзісненска-Мядзельска-Нарачанскага шляху. Якая сіла не дала ім гэтага зрабіць, пакуль што застаецца загадкай. Геаграфія і тапанімія сведчаць пра тое, што раён Лынтупшчыны — Свянцяншчыны застаўся самабытным і захаваў некаторыя адметнасці. Да іх можна аднесці: высокая доля назваў з канчаткам «-уны» (Палхуны, Каптаруны, Мягуны, Свірдуны, Эймуніс, Васюнай і г. д.), значная колькасць назваў са спалучэннем зычных «-св-», «-шв-», «-жв-» (Швакшты, Свіркі, Свілелі, Свірус, Свіла,



Жвойрышкі, Свянцяны і г. д.), значная ўзвышанасць і перасечанасць рэльефу, азёрнасць, водападзел паміж Дзвіной і Нёманам. На гэтай тэрыторыі існавала Нальшчанская зямля, звесткі аб якой утрымліваюцца ў летапісах.

Маючы выгаднае геаграфічнае становішча, Паставы паступова распаўсюдзілі свой уплыў на яшчэ дзве рачныя сістэмы: Лучайку (вёска Перавознікі) і Спарыцу (вёска Задзеўе).

Гандаль спрыяў росту мястэчка, якое ў XVIII стагоддзі ўжо лічылася адным з прыгажэйшых у гэтым рэгіёне Рэчы Паспалітай. Асноўнымі гандлёвымі таварамі былі рыба з навакольных азёр, лес і лясныя прадукты з Пастаўскай і Манькавіцкай Дачаў, прадукты земляробства з даліны Лучайкі, балотная жалезная руда і, магчыма, жалеза (вёска Жалязоўшчына). Развіццё прамысловых прадпрыемстваў у часы Тызенгаўзаў у Паставах паспрыяла яго эканамічнаму ўмацаванню. Аднак падзел Рэчы Паспалітай, войны, знікненне гандлёвага шляху прывялі да заняпаду мястэчка.

Вышэй Пастаў Мядзелка значна звужаецца і цячэ ў асноўным сярод лясоў і хмызнякоў. Населеных пунктаў параўнальна мала (Ліпнікі, Манькавічы, Пятроўшчына, Мікіткі, Маўчаны, Лапосі), што сведчыць пра тое, што гэты ўчастак шляху перастаў выконваць свае функцыі даволі даўно. Можна дапусціць, што «залатым часам» для яго былі XI–XIV стагоддзі, калі ажыццяўляліся інтэнсіўныя стасункі паміж Полацкам, Наваградкам і Вільняй.

Яскравыя доказы існавання гандлёвага шляху па Мядзелцы мы знаходзім на берагах яе вытоку — возера Мядзел. Гэта даволі вялікі вадаём плошчай 16 км$^2$ з глыбінямі да 24-х метраў, з моцна зрэзанай берагавой лініяй і групай астравоў. Паўастравы і затокі ўтвараюць натуральныя гавані для караблёў. Асабліва выдзяляецца ў паўднёвай частцы возера

ўнікальная пясчаная каса даўжынёй каля двух кіламетраў. У паўночнай частцы далёка высоўваецца ў акваторыю масіўны і даволі высокі паўвостраў Дубавы. Пра тое, што узбярэжжа возера ў даўнейшыя часы было шчыльна заселена, сведчаць вядомыя археолагам гарадзішчы і селішчы. Напэўна, цяжка вызначыць у паўночна-заходняй частцы Беларусі раён, дзе б на параўнальна невялікай плошчы канцэнтравалася такая значная колькасць старажытных гістарычных аб’ектаў. Гарадзішчы знаходзяцца ля вытокаў Мядзелкі, на паўвостраве Дубавым, каля вёсак Рыбкі, Стругалапы, Пасашкі, на востраве Замак. Гэты востраў прыцягвае асаблівую ўвагу, бо хутчэй за ўсё ён кантраляваў усе ваколіцы і, напэўна, водны шлях. З усіх названых вышэй гарадзішчаў Замак найбольш захаваў рысы сваёй былой велічы: яго ўмацаваная частка і зараз узвышаецца на добры дзесятак метраў над наваколлем. У рэльефе адметна выдзяляюцца валы і акружны роў. З вяршыні Замка выдатна праглядаецца амаль уся акваторыя возера. Пра старажытнасць паселішча на востраве сведчыць вялікі культурны слой.

Прырода вельмі ўдала стварыла гэты востраў, размясціўшы яго амаль пасярэдзіне возера якраз на лініі, якая злучае выток Мядзелкі і вусце ручая, што выцякае з возера Рудакова і ўпадае ў возера Мядзел каля вёскі Волачак.

Назва «Волачак» (мясцовая — «Волачка») з’яўляецца вельмі важным доказам існавання воднага шляху, бо паказвае на тое, што караблі з возера Мядзел у возера Мястра, а то і ў Нарач трэба было цягнуць волакам. Каля вёскі возера ўтварае дзве вялікія затокі: адну — каля вусця ручая, а другую, адгароджаную касой, — бліжэй да вёскі Скары. Гэтыя прыродныя гавані давалі магчымасць караблям перачакаць непагадзь, або час, калі вызваліцца волак. З вострава Замак можна было згледзіць любы рух, які адбываўся на волаку.



Дакладна вызначыць, у якім месцы ішоў волак праз водападзел паміж азёрамі Мядзел і Мястра, вельмі складана, бо мясцовасць за апошнія стагоддзі моцна змянілася. Даліны ручаёў зараслі густым хмызняком, на месцы былой вёскі засталіся толькі падмуркі хат і некалькі новых дач. Верагодна, на гэтай вузкай паласе сушы існавала некалькі волакаў. Адзін з іх ад Волачка ішоў да возера Рудакова. Геаграфічнае становішча гэтага возера ўнікальнае, магчыма, адзінкавае ў Беларусі. Справа ў тым, што яно ляжыць як раз на водападзеле паміж басейнамі Дзісны (Дзвіны) і Віліі (Нёмана) і дае ваду адразу ў дзве сістэмы. Чалавек, патрапіўшы на берагі Рудакова, адчувае адметную празрыстасць, чысціню і свежасць паветра, якое спалучаецца з блакітным колерам вады. Тлумачыцца гэта тым, што возера ляжыць значна вышэй над узроўнем мора, чым суседнія вадаёмы. Так, для Рудакова ўзровень вады складае каля 185 м, у той час як для возера Мядзел — 159 м, а для возера Мястра — 165 м. Перапад у 20–25 м — гэта даволі вялікі паказчык для нашай раўніннай тэрыторыі. Варта заўважыць, што берагі вакол Рудакова стромкія і высокія, зусім побач з возерам знаходзіцца адзнака 225 м. Асаблівасці геаграфічнага становішча і вялікая глыбіня (28, 6 м) паспрыялі захаванню ў возеры прадстаўнікоў рэліктавай іхтыяфаўны.

З Рудакова ў Мястра шлях ішоў па ручаіне, якая бярэ пачатак у заходняй частцы возера і ў сярэднім цячэнні раздзяляецца на два рэчышчы: адно з іх пралягае каля вёскі Мінчакі, а другое — каля Сабалеўшчыны. Сказаць дакладна, па якому з рукавоў ішоў шлях, зараз складана, але можна выказаць меркаванне, што яны выкарыстоўваліся абодва, толькі па аднаму ажыццяўляўся пад’ём, а па другому — спуск. Пра тое, што гэта меркаванне можа мець рацыю,

сведчыць наяўнасць гарадзішча каля в. Мінчакі на рачной луцэ. Можна лічыць, што спуск з Рудакова ішоў праз в. Сабалеўшчына, бо гэта рукаво карацейшае і мае большы ўхіл, а праз Мінчакі ішоў пад'ём, — а само паселішча выконвала ролю месца адпачынку.

Далей водны шлях працягваўся па возеры Мястра да пратокі Скема і праз яе выводзіў у Нарач. Абапал пратокі археолагі адкрылі старажытныя паселішчы, якія існавалі тут яшчэ з эпохі мезаліту. Вузкасць паласы сушы, на якой яны знаходзяцца, і, адпаведна, абмежаванасць у мінулым лясных і жывёльных рэсурсаў, падштурхоўваюць да думкі, што прычына ўтварэння тут гарадзішчаў — гэта кантроль за водным шляхам, гандаль, рыба. Такія ж функцыі на возеры Нарач выконваў востраў Выспа, дзе ў сярэднявеччы знаходзіўся замак. З яго добра бачна пратока, часткі Нарачы і Мястра.

Вельмі істотна тое, што на ўсім заходнім узбярэжжы Нарачы гарадзішчаў пакуль што не выяўлена, хоць гэтыя берагі не менш прыдатныя да жыцця, чым, напрыклад, на возеры Мядзел.

З возера Нарач водны шлях вёў у рэчку Нарачанка, выток якой знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы возера.

Тут таксама знаходзілася старажытнае паселішча. У кнізе Л. Д. Побаля «Древности Белоруссии в музеях Польши» (Мн., Наука и техника, 1979) чытаем: «Маецца інфармацыя А. Віслоцкага ад 18 жніўня 1937 г, якая надрукавана 31 жніўня 1937 года ў польскай газеце «Кур'ер Поранны». У ёй паведамляецца аб тым, што на паўднёвым беразе возера, ва ўрочышчы Скок, каля ракі Нарачанка, у лесе падчас работ па стварэнню штучных вадаёмаў пад слоем пяску на глыбіні 2-х м знойдзены «абпаленыя» і «закопчаныя скопішчы крэмню», кускі дрэва, гладкасценныя і з аблямоўкай кавалкі



посуду, розныя вырабы з крэмню і каменя. Два каменныя прадметы мясцовымі жыхарамі ўжываліся як цянжаркі для сетак. Тут, верагодна, знаходзілася тарфяное паселішча неаліту або бронзавага веку».

Нарачанка свае воды нясе ў Вілію. Вілія — у Нёман, а Нёман — у Балтыйскае мора.

Можна лічыць, што вызначаным воднымі шляхам ажыццяўляліся стасункі паміж Полацкам і Вільняй, і, верагодна, да ўтварэння гэтых княстваў.

А ці магчыма было яго існаванне ў часы ўзвышэння Наваградка, першай сталіцы Вялікага Княства? Напэўна, магчыма. Караблі з Нарачанкі маглі трапляць у Вілію, а потым па яе прытоку Вуша падымацца ўверх да сучаснага Маладзечна. Якраз у гэтым месцы знаходзіцца паніжэнне, якое падзяляе Мінскае і Ашмянскае ўзвышшы, і тут Вуша даволі блізка падыходзіць да прытока Нёмана — Бярэзіны. Дэталёвыя даследаванні маглі б вызначыць, ці існаваў тут волак. А наяўнасць такіх тапонімаў як Хожава ды Насілава дае падставы лічыць, што паміж Вушой і Бярэзінай у гэтым месцы нейкі рух быў.

Ускосна пацвярджаюць існаванне воднага шляху па нёманскай Бярэзіне тапонімы Гарадок, Гарадзілава, Гарадзькі, якія знаходзяцца ў даліне ракі. Асабліва яскравай з'яўляецца назва вёскі Палачаны. Заснавальнікамі яе або яе жыхарамі былі выхадцы з далёкага Полацка, якія, відаць, невыпадкова апынуліся тут.

З Бярэзіны шлях ішоў уверх па Нёману да Любчы, дзе мелася прыстань. Адтуль па сушы можна было лёгка дабрацца да Наваградка. Магчыма, сучасная дарога ідзе па гістарычнай. Але караблі маглі падымацца з Любчы па Нёману і вышэй, да Лаўрышова, а потым па высокай вадзе па Валоўцы да Гарадзечна. Напэўна ўсё ж такі невыпадкова

пабудаваў у Лаўрышове свой манастыр Войшалк: са слоў гандляроў ён добра ведаў пра падзеі ў Наваградку, Літве і нават у Полацку.

## Экспедыцыя «Водны шлях»

Каб абнавіць у сваёй душы фарбы жыцця і вярнуць вастрыню пачуццяў, трэба час ад часу вырывацца з прыгнятальнага кола будзённасці, разрываць нябачныя ланцугі спраў ды абавязкаў і адпраўляцца на колькі дзён у вандроўку. Новыя людзі, нечаканыя сустрэчы, незвычайныя адкрыцці на шляхах маршрутаў даюць магчымасць адчуць усю прыгажосць і самога нашага жыцця, і той, выключна багатай зямлі, на якой мы жывем.

Упэўніўся каторы раз, што мары, нават самыя патаемныя, але моцна жаданыя, калі-небудзь усё ж збываюцца. Так і з экспедыцыяй «Водны шлях». Задумвалася яна даўно, год пятнаццаць таму, як водная вандроўка па рэчцы Мядзелка з возера Мядзел да ракі Дзісны з мэтай вывучэння прыродных аб'ектаў і экалагічнага стану воднай сістэмы. Нават кансультацыі былі праведзены з вядомым нашым географам, доктарам геаграфічных навук, прафесарам Вольгай Піліпаўнай Якушка, была дамова аб патранажы геафаку БДУ над нашым праектам. Аднак час пераблытаў усе планы і вандроўка не адбылася. І зараз я не шкадую, што яна не здзейснілася. Эклезіяст меў рацыю, калі казаў: «Усяму свой час». На сённяшні дзень мне вядома пра Нарачаншчыну, Мядзельшчыну і Пастаўшчыну намнога больш, чым у сярэдзіне васьмідзесятых і я здольны шукаць і знаходзіць тое, пра што раней і не здагадваўся.

Паступова ідэя простай краязнаўчай вандроўкі перарасла ў праект экспедыцыі «Водны шлях» з галоўнай мэтай — пошукам доказаў існавання старажытнага воднага шляху паміж басейнамі рэк Дзвіны і Нёмана праз азёры Нарач, Мястра, Мядзел і рэкі Мядзелка, Дзвіна, Нарачанка. Як раз каля Нарачанскіх азёр знаходзіцца водападзел, дзе, верагодна, існаваў волак. Натуральна, гэта быў шлях не такі інтэнсіўны, як «шлях з варагаў у грэкі», але, магчыма, у старажытнасці ён адыгрываў значную ролю ў стасунках паміж Вільняй, Полацкам і Наваградкам.

Калі з рэкамі ўсё зразумела — караблі мусілі плыць у рэчышчы, то з водападзеламі намнога складаней: дзе існавалі волакі? як перацягваліся караблі? як рэгуляваўся сустрэчны рух? дзе былі прыстані, паселішчы? Гэтыя і шмат іншых пытанняў патрабавалі свайго вырашэння. Таму галоўнай мэтай экспедыцыі «Водны шлях» было абследаванне волаку на водападзеле паміж азёрамі Мядзел і Мястра, а таксама шэрагу аб'ектаў на рэчцы Мядзелка. Экспедыцыя доўжылася тры дні і была вельмі насычанай, троху драматычнай і даволі плённай. А пра тое, як разгортваліся падзеі пад час вандроўкі, можна даведацца з дзённікавых запісаў кіраўніка экспедыцыі.

*26 чэрвеня 2001 года*

Экспедыцыя пачынаецца! Хочацца радавацца, але радасць гэта з прысмакам горычы. Не так усё склалася, як планавалася спачатку. Тры разы па розных прычынах прыйшлося яе адкладваць, два мае сябры: літаратар, навуковец і відэааператар Міхась Кенька ды географ-аднакурснік Ігар Навумаў, якія рыхтаваліся да ўдзелу, з прычыны збегу абставін літаральна напярэдадні вандроўкі паведамілі аб немагчымасці адправіцца з намі. Але… Сонца падымаецца над зямлёй, ціха і цёпла. Дзень абяцае быць сонечным і прыгожым. Іду з рукзаком на аўтавакзал у Паставах і

троху хвалююся: няўвязкі апошніх дзён кідаюць цень на дзень сённяшні: ці ўсе вучні — удзельнікі экспедыцыі — збяруцца да адыходу аўтобуса? Але хваляванні дарэмныя, бо на вакзале мяне ўжо чакаюць пяць маіх «вандроўнікаў»: Андрэй Чарэнка, вучань 9 класа, пераможца абласнога злёту юных краязнаўцаў; Жэня Громаў, ягоны аднакласнік, стваральнік першага пастаўскага сайта ў Інтэрнэце; Дзяніс Жук, самы вопытны турыст у групе, і дзве сімпатычныя дзяўчынкі васьмікласніцы-аднакласніцы Лена Красоўская і Люда Курта, якія ў веснавых вандроўках праявілі сябе як цікаўныя даследчыцы. З гэтай цудоўнай пяцёркі чацвёра скончылі навучальны год на выдатна.

Яшчэ раз аглядаю групу і ўпэўніваюся ў тым, што з вялікай колькасці жадаючых удалося выбраць аптымальны састаў: адзін вопытны турыст і чатыры дасведчаныя краязнаўцы; тры спакойныя і сур’ёзныя хлопцы і дзве разумныя і вясёлыя дзяўчыны…Можна і яшчэ знайсці нейкія станоўчыя спалучэнні, але экспедыцыя пакажа.

Бярэм білет да Мікольцаў і сядаем у «мінскі аўтобус». Сваімі вялікімі рукзакамі загружаем заднюю пляцоўку «Ікаруса». З цікавасцю пазіраюць на нас дарослыя, у захапленні, як іншапланецян, разглядаюць нас малыя дзеці. Аўтобус пакідае Паставы і набірае крэйсерскую хуткасць. Пасажыры суцішваюцца, многія дрэмлюць, даглядаючы ранішнія сны.

Мы пазіраем у акно: там мільгаюць палеткі, лясы, балаціны, вёскі — Мястэчка, якая не адпавядае сваёй назве, боператварылася ў невялікае сельскае паселішча; Агароднікі — радзіма славутага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі, Вярэнькі з Казламі, якія нічым адметным не выдзяляюцца; Чэхі — лецішча вядомага мастака-патрыёта Алеся Цыркунова. Мінуўшы Швакшты, пад’язджаем да вёскі Нарач, якая раней называлася больш адметна — Кабыльнік. Каля яе — вялікія могілкі, на ўскрайку паселішча — вялікі чырвоны касцёл.



На прыпынку ў Нарачы садзіцца даволі многа людзей. У асноўным гэта мясцовыя, якія едуць «да Мядзела». Але зусім цесна стала ў «Ікарусе» ў санаторыі Нарач: значная купка пасажыраў мусіла стаяць.

За санаторыем шаша ідзе каля самага берага возера Нарач. Гадоў 25 таму бераг быў чысты і перад любым вандроўнікам у ва ўсёй прыгажосці раскрывалася велічнасць «беларускага мора», аднак зараз амаль увесь бераг зарос хмызняком і толькі ў рэдкіх прагалінах сям-там мільгаюць лапікі вады. Канешне, з экалагічнага пункту гледжання, зарастанне берага — з’ява спрыяльная для возера: не так размываецца берагавая лінія ды і выкідам аўтатранспарту ўсё ж не так лёгка прарвацца да вады. Але эстэтычна возера многа прайграе. Ведаю па сабе: сотні разоў праязджаў па беразе Нарачы, але аднолькавага возера не сустракаў: кожны раз Нарач нечакана новая, таямнічая і загадкавая як жанчына. Пачуцці хвалююцца, як і хвалі на возеры.

Выходзім у Мікольцах, як раз там, дзе вузкая паласа сушы разлучае Нарач з Мястрам. Жадаем пасажырам добрай дарогі і рушым у канец вёскі: па маёй версіі менавіта там павінен быць адзін з верагодных волакаў.

Настрой выдатны. Усміхаемся і жартуем. Усяго толькі палова на дзевятую, а сонца пячэ будзь здароў! Ветру няма, прыпарка. «Можа быць дождж» — нехта з вандроўнікаў фармулюе народную прыкмету, але ўсе дружна адганяюць гэту думку прэч, бо змаганне са стыхіяй не ўваходзіць у нашы планы.

У канцы вёскі нас чакае балота. Саліднае, парослае аерам і трыснягом, з гучным кваканнем жаб і краканнем качак.

Гэта ўзрадавала, бо там, дзе балота, там можа быць і канава, а дзе канава, там і старажытны волак?

Пасля камфортнага «Ікаруса» лезці ў балота і мокнуць нікому не хочацца. Вырашаем абысці балота і распытацца пра яго ў абарыгенаў. Увайшоўшы ў невялікі вясковы завулак сустракаем бабульку, мясцовую жыхарку. Не дужа ахвотная яна да размоў, але ўсё ж цікавую інфармацыю мы з яе выцягнулі. Паводле яе слоў, «пры Польшчы» паміж азёрамі Мястра і Мядзел існавала сістэма канаў, якія ўтрымліваліся па загаду пана ў чыстым стане для таго, каб пасля дажджоў ці вясной пад час разводдзя вада хутчэй сцякала з палёў у азёры. У тыя часы канавы былі шырокія, а зараз зараслі, абмялелі.

Папыталіся мы ў бабулькі і пра Чорную гару, пра якую ўжо мелі звесткі з энцыклапедый і даведнікаў. Яна толькі пацвердзіла вядомае: Чорная гара — гэта гарадзішча; некалькі гадоў запар тут вялі раскопкі археолагі, знайшлі нешта цікавае, але што, то ніхто з мясцовых ня ведае.

Развітваемся з не вельмі прыветлівай суразмоўніцай і рушым на поўнач, у бок Чорнай гары. Літаральна за агародамі трапляем у казачную мясцовасць: на ўзгорках, дзе калгасныя палі не змаглі захапіць дзікай травы, палымнеюць сотні, тысячы макаў. Асабліва многа іх каля адметнага кургана, што высока падымаецца над ваколлем — Чорнай гары. «Пэўна, старажытныя людзі былі наркаманамі», — падаў версію нехта з групы. Прапануецца і яшчэ некалькі арыгінальных варыянтаў тлумачэння макавай праблемы, але яна так і застаецца ня вырашанай.

Фатаграфуемся ў маках і на тле Чорнай гары, а потым ідзём «браць» гарадзішча. «Браць» — сказана гучна, бо яго ўжо «ўзялі» археолагі на чале з Я. Г. Звяругам. Наша задача: зрабіць агляд ды паспрабаваць сабраць пад'ёмны археаматэрыял.



На гару першымі ўзлятаюць дзяўчаты і хутка да астатніх даносяцца воклічы захаплення. Падымаемся на вяршыню. Сапраўды, прыгажосць незвычайная: шырокім пасам вакол гарадзішча на месцы старажытнага селішча распасцёрся чырвона-зялёны дыван з дзікай травы і макаў, а далей, за пагоркам, за Мікольцамі, дзве сінія стужкі, перавязаныя вузенькай зялёнай нітачкай — гэта азёры Мястра і Нарач. Нам рупіць паглядзець на поўнач, пабачыць і возера Мядзел. На жаль, паўночны схіл парос бярозамі, а далей, за нешырокай паласой поля, цягнецца лес.Паміж селішчам і «дваром»(былой панскай сядзібай) ляжыць лагчына, дзе (мы амаль упэўнены ў гэтым) праходзіў волак.

Калі ўзрушэнне троху спадае, пачынаем абследаванне кургана. Плошча (параўнальна з селішчам) зусім невялікая, культурны пласт амаль адсутнічае. Напэўна, гэта было гарадзішча-сховішча на выпадак крайняй неабходнасці і, верагодна, назіральны пункт — адсюль можна было бачыць далёкія караблі на азёрах. Нездарма старажытныя людзі паставілі паселішча на водападзеле, а не каля возера: ці ні жаданне кантролю за волакам прымусіла іх гэта зрабіць?

Мы радуемся новым доказам існавання старажытнага шляху і тут жа засмучаемся, бо бачым сляды нашай «цывілізацыі». Ля вялікага валуна — бітае бутэлечнае шкло, рэшткі вогнішча з абвугленым і недапаленым бярвеннем…

Спускаемся ўніз па ўсходняму схілу. Ля падэшвы, нібыта спецыяльна для нас, трава выкашана і над дзярнінай тамсям узвышаюцца гурбачкі старых кратавін. Крот — найлепшы памочнік археолага. Заўважаем, што зямля на кратавінах выключна чорнага колеру, значыць, ёсць культурны слой. Акуратна расціраем у руках зямлю. Кавалачкі керамікі знаходзяць Лена, Люда, Андрэй. Мне трапляецца глінянае праселка.

За некалькі хвілін збіраем адметную калекцыю рэшткаў керамічнага посуду. Для поўнага ўяўлення пра асаблівасці гарадзішча абходзім яго вакол. На паўднёва-заходняй частцы падэшвы гары знаходзім стары раскоп з размытымі сценкамі, якія параслі травой.

Каля нас, абапіраючыся на кій, цяжка ступаючы, прасунуўся стары. З'яўленне гэтага мясцовага жыхара выклікала асацыяцыі са старажытнасцю і кадрамі некаторых фільмаў пра вандроўнікаў: у мройнай, настоенай выпарэннямі цішы, паміж узгоркамі, то падымаючыся над імі, то знікаючы ў лагчынах, рухалася высокая хударлявая постаць. Узнікла адчуванне, што чалавек гэты стары не ад старасці, а ад жыцця — дакладней, ад яго жарсцяў…

А вось другі сустрэчны, жыхар Волачка, аказаўся намнога больш цікавы: ён з энтузіязмам распавядае пра вакольныя мясціны, пра помнікі даўніны і падзеі, якія тут адбываліся. Факты, нам у асноўным вядомыя, падаюцца ім у арыгінальнай уласнай інтэрпрэтацыі. Найбольш цікавае з расказанага — гэта тое, што паміж Чорнай гарой і возерам Рудакова знаходзіцца вялікая «Амшара», праз якую прайсці немагчыма, і якая цягнецца ад возера Мядзел да возера Мястра. Амшара — забалочаная, парослая хмызняком лагчына, яшчэ адзін доказ існавання волаку. Гадоў тысячу таму тут ішоў гандлёвы шлях, даліна была чыстая, без зарасніку, але, калі знікла патрэба ў волаку, «водны гасцінец» ператварыўся ў цяжкапрахадзімае балота.

Мы мелі намер з Чорнай гары пайсці адразу на вёску Стомы і далей на возера Рудакова, але мясцовы жыхар так настойліва запэўніваў нас, што праз амшару прайсці немагчыма, а сама амшара глядзела на нас непрыветлівай сцяной пераплеценай лазы, альшэўніку і густой травы, на якой яшчэ віселі буйныя кроплі расы, мы вырашылі ісці ў абход, супакойваючы сябе тым, што «крывая дарога з простай смяецца».

…Кіламетры паўтара ідзём лясной дарогай, якая то ўздымаецца на ўзгорак, то спускаецца ў лагчыну. Лес не густы, з вялікімі палянамі і густымі духмянымі травамі. Час ад часу спыняемся, каб паласавацца суніцамі, якія так настойліва чырванеюць абапал дарогі.

Заплечнікі робяцца адчувальнымі і дзяўчаты ўсё часцей пытаюцца «ці хутка возера?» Нарэшце бачым блакітную палоску вады, якая прабіваецца праз зяляніну дрэў. Ідзем напрасткі і трапляем у дзікую мясцовасць. Агортвае такое адчуванне, быццам бы тут нядаўна была ці то вайна, ці то стыхійнае бедства: нейкія рэшткі платоў, здзічэлы недагледжаны сад, амаль разбураная печ з комінам, рэшткі незразумелых пабудоў — і ўсё гэта пад аховай высокай пакручанай і патаптанай травы. І зусім недарэчна выглядае ў «ваенным» пейзажы пара легкавушак, некалькі палатак і — каля самага берага возера — два прыстойныя летнія домікі. Закінутыя, нежылыя. Ідэальнае месца для адпачынку, а такі «бардак». Няўжо незвычайная прыгажосць мясцовых багаццяў тутэйшай прыроды так разбэсціла людзей, што экалагічны крах асобных мясцін нават і не заўважаецца — маўляў, шмат ёсць іншых, яшчэ «не асвоеных»?

На невысокім балкончыку аднаго з домікаў ладзім перакус. Падсілкоўваючыся, жартуем, расказваем розныя гісторыі і паглядаем на сінюткую далячынь Мядзельскага возера…

Сонца паднялося ўжо даволі высока. Спёка ўзмацняецца. Пераапрануўшыся ў майкі ды шорты рушым да Рудакова. Ісці становіцца лягчэй, але дакучаюць парнасць і авадні.

Спускаемся ў глыбокую лагчыну і натрапляем на ручаёк, які з даволі вялікага балота сцякае ў возера. Разважаем пра

тое, як старажытныя людзі маглі перацягваць тут караблі. Прыходзім да версіі, што волак уяўляў сабой сістэму падпруджаных вадаёмаў, якія знаходзіліся на рознай вышыні адносна ўзроўню возера, што значна спрашчала пераадоленне водападзелу. Можа гэта балота і ёсць адзін з вадаёмаў?

Заўважаем ледзь прыкметную сцежку ўздоўж забалочанай лагчыны і рушым па ёй. На жаль, хмызняк не дае магчымасці прайсці каля былога рэчышча: яно паварочвае на захад і губляецца ў амшары.

У амаль суцэльнай «дзікай» прыродзе паступова пачынаюць з'яўляцца «сляды цывілізацыі»: скошаная трава на паляне, пластыкавыя бутэлькі, бітае шкло, плямы ад вогнішчаў. За выступам густога ельніку бачым вялізную шыльду «Рудаково».

Ідзем паміж летніх домікаў базы адпачынку да купальні на возеры Рудакова. Адпачываючых шмат. Людзі купаюцца, загараюць, катаюцца на лодках, ловяць рыбу. Надвор'е, як на заказ: ціха, горача і на небе ні хмурынкі. Вырашаем трохі адпачыць у засені дрэў на беразе гэтага казачнага па прыгажосці возера.

Люда і Дзяніс купаюцца, астатнія «адпарваюць» ногі. Пакуль усе адпачываюць, вырашаю абследаваць заходні бераг возера. На карце паказаны два ручаі, што выцякаюць з вадаёма ў бок азёр Мястра і Мядзел, а з месца нашай новай стаянкі добра назіраецца адметная гара з пляскатай вяршыняй, на якой растуць сосны. Форма вельмі нагадвае гарадзішча. Спадзяванняў на тое, што археолагі прамінулі яго амаль няма, аднак «чаго на свеце не бывае?». Знайшлі ж мы два месяцы таму ля Швакштаў невядомае археолагам гарадзішча, дык можа і тут чакае адкрыццё?

Абыходжу бераг возера і падымаюся на гару. Даволі стромкія схілы, адносна роўная вяршыня. Раблю прыкопкі.



Зноў «наша цывілізацыя»: шкло, бляшанкі з-пад кансерваў, сляды вогнішчаў… Чаму нашым людзям, маючы камфортныя ўмовы базы адпачынку, так хочацца пакінуць свае сляды ў «дзікай» прыродзе?

Расчараваны, разважаю аб прычынах адсутнасці тут слядоў старажытнага паселішча. Думаецца, каб сам жыў у тыя часы, то абавязкова б пасяліўся на гэтай адметнай гары на ўзбярэжжы маляўнічага возера зусім побач з волакам… Ды ў старажытных людзей былі нейкія свае віды на жыхарства.

Спускаюся з гары да вытоку ручая. Цяпер ён перасох і толькі выяўнае паглыбленне ў рэльефе ды больш густая трава паказваюць напрамак звілістага рэчышча.

Другі выток выглядае больш цікавым: ён таксама перасох і праз яго ідзе палявая дарога, але літаральна ў метрах дваццаці ад возера ляжыць выцягнутае высокае ладнае балота, з якога сцякае па стромкаму схілу ў хмызняковую нізіну ручай. Гэта балота — нібы яшчэ адзін доказ таго, што волак уяўляў сабой каскад рознаўзроўневых вадаёмаў. А вакол валуноў — як чорт рассыпаў! Цэлыя скопішчы, асабліва каля вёскі Стомы.

Падыходжу бліжэй да вясковых хат. Яны поўнасцю патанаюць у зяляніне высокіх дрэў і садоў, нават цяжка вызначыцца з колькасцю пабудоў. У прыемнай цяністай прахалодзе праходжу ўздоўж вёскі і на яе паўднёвым ускрайку мяне чакае адкрыццё. А можа і не адкрыццё? Ці можа мець нейкую гістарычную каштоўнасць звычайная канава, якую з прычыны зарасніку маліны ды альшэўніку здалёк і не разгледзіш? Аднак, можа яна і не звычайная? Відавочна, капаная людзьмі, ды чамусьці праз узгорак, прамалінейна, ды і глыбіня месцамі да 3–4 метраў. Ці ні яшчэ адзін кавалак волаку трапіў мне на вочы? Успомнілася, як рыхтуючыся да

экспедыцыі, доўга шукаў, але так і не знайшоў прыдатнага адказу на два пытанні:»Адкуль пайшла назва вёскі Стомы?» і «Чаму на карце паказана, што каля вёскі Стомы ручай, што выцякае з Рудакова, раздзяляецца на два рэчышчы, якія ў розных месцах выходзяць да Мястра?»Назва вёскі Стомы, магчыма, звязана з прозвішчам Стома, якое сустракаецца на Пастаўшчыне і Мядзельшчыне; ёсць пісьменнік Вячаслаў Стома. А можа карані назвы ідуць глыбей, можа ёсць сувязь з беларускім словам «стома», «стамляцца»? І ўзнікла гэта вёска на месцы, дзе быў адпачынак на волаку, бо, вядома, цяганне караблёў па сушы — гэта вам не плаванне па цячэнні. Вось стомленыя «таварышы» і адпачывалі тут.

Карта падказала і яшчэ адзін гіпатэтычны варыянт тлумачэння назвы. У беларускай мове месца, дзе зліваюцца рэкі ці ручаі, называецца сутокі. А ці называлася як-небудзь месца, дзе ручай раздзяляўся на два рукавы? «Біфуркацыя» — так называюць навукоўцы гэту з'яву. Яна рэдкая, значыць і тапонім мог быць мясцовы, толькі вакольнаму люду і вядомы. Ці магло гэта месца называцца «сутомы», а потым назва спрасцілася і засталося «стомы»? Пытанняў больш, чым адказаў. А па якой прычыне ручай раздзяліўся на два рукавы? Што прымусіла ваду цячы двума патокамі? Канава каля Стомаў быццам бы дае адказ: новае рэчышча было выкапана людзьмі для ўладкавання волаку. Трэба было б прайсці ўздоўж усёй канавы, але часу не ставала — мусіў вяртацца да сваіх краязнаўцаў.

Хлопцы і дзяўчаты чакалі мяне на беразе Рудакова.

Праводзім карэкціроўку графіка маршруту: з прычыны адставання вырашаем рухацца хутчэй, а частку краязнаўчай праграмы пакінуць для наступнай экспедыцыі. Таксама прыходзім да высновы, што дакладна вызначыцца з волакам на водападзеле і нанесці яго на карту можна будзе пад час



вандроўкі або позняй восенню, або бясснежнай зімой, калі не будзе лістоты на дрэвах, а канавы і балоты скуе лёд..

Фатаграфуемся ля шыльды «Рудакова» і шпаркім крокам рухаемся праз вёску Волачак да возера Мядзел. Надвор'е неўпрыкмет мяняецца: на небе з'яўляюцца хмурынкі і ўсё часцей сонца пачынае хавацца за аблокі.

Ісці ля берага возера па сцяжынцы лягчэй, прыемна павявае прахалодай, сіняя далячынь лашчыць вока прыгажосцю і спакоем. У 16 гадзін нам трэба быць каля былога мядзельскага лясніцтва, куды павінны падвезці лодкі. Спяшаемся. Бачу, што дзяўчатам, ды і хлопцам ісці ўжо цяжкавата.

На адной з арганізаваных стаянак робім прывал, перакусваем, адпачываем. Заўважаем, што на спецыяльна абсталяваных месцах адпачынку, дзе ёсць навесы, сталы, лавы, месцы для вогнішчаў, сметніцы, значна чысцей, чым у іншых месцах, хоць і тут сям-там валяюцца пластыкавыя бутэлькі, бітае шкло, поліэтыленавыя пакеты.

Літаральна на вачах надвор'е агрэсіўна мяняецца. Неба спрэс зацягваюць кучава-дажджавыя аблокі, падымаецца вецер, які ўзмацняецца з кожнай хвілінай; на заходнім гарызонце вымалёўваецца цёмна-сіняя навальнічная хмара. На азёрных хвалях успыхваюць белыя грабяні, якія моцна б'юцца аб высокія берагі, падымаючы феерверкі пырскаў і пены. За нейкую гадзіну ваколле змянілася непазнавальна. Востраў Замак, які зусім нядаўна выглядаў прыгожай цацачкай на прывольнай роўнядзі возера і зіхацеў на сонцы, ператварыўся ў змрочны чорны карабель, які адчайна змагаецца з лютай стыхіяй. А на тым востраве ў нас запланаваны начлег…

Апранаемся цяплей і пад парывамі ветру рушым уздоўж берага. А палове чацвёртай выходзім на дамоўленае месца ля былога лясніцтва і чакаем транспарт з лодкамі. Сядаем

пад навес. Люда дастае часопісы «Каламбур» і чытае анекдоты. Смяёмся, але на душы трывожна. Над возерам, як раз у бок Замка грымяць і б'юць маланкі. Вецер шалее і прымушае хвалі раз'юшана кідацца на бераг. Мусіць да вострава нам сёння не даплыць…

Вырашаю адвесці групу далей ад вады, бо Пяруновы стрэлы б'юць ўсё бліжэй і пагрозлівей. Зрушыўшы з месца сустракаем майго брата Віктара. Як высвятляецца, трактар з лодкамі пад'ехаў да возера за паўкіламетра ад прызначанага месца, бо не было каму адамкнуць патрэбных варот. Мусім вяртацца па пройдзеных сцежках.

Падыходзячы да трактара, трапляем пад дождж. На возеры сапраўдны шторм. Хаваемся ў вялікую альтанку, але яна адкрытая з бакоў і амаль не ратуе ад вады і ветру. Абкручваем альтанку цыратай і ў ёй становіцца зацішней. Але настрой псуецца. Перспектыва заначаваць на беразе возера пад дажджом і грымотамі яўна не надае аптымізму.

Але пакуль мы абмяркоўваем сваё становішча і абдумваем магчымыя варыянты далейшых дзеянняў, дождж паступова пераходзіць у марасню, вецер прыкметна сцішваецца, а навальніца адыходзіць у бок Паставаў. За возерам бліскае сонца і гэта абуджае ў нас надзею.

Спускаем лодкі на ваду, ўладкоўваем рыштунак і рукзакі. Лодкі ў нас тры: на 2, 3 і 4 персоны. На самую вялікую ўладкоўваюся я з дзяўчатамі, у трохі меншую — хлопцы, а ў двухмесную — мой брат, якому для баласту загружаем нашу 8-месную палатку, цырату ды яшчэ сёе-тое з рыштунку.

А пачатку сёмай адплываем. На возеры штыль, але плывем недалёка ад берага, бо дзве лодкі патроху падцякаюць — за час перавозкі на трактары ў некаторых месцах днішча адстала смала…



Плывём, напэўна, гадзіны дзве. Разглядаем качак, водарасці, азёрнае дно. Плаванне ля берага небяспечнае і мы адчуваем сябе камфортна. Але, калі пераплываем праз плёс да вострава, адбываецца невялікае казытанне нерваў. Не да весялосці, калі пад лодкай 25 метраў вады!

Сонца ўжо вісіць над Замкам, калі нашы лодкі шаргацяць аб прыбярэжныя камяні. Выходжу на бераг, каб выбраць месца для лагера і начлегу, і патрапляю ў некранутую прыроду. Сам не малы, маю пад два метры росту, а патанаю ў зялёным моры травы. Ісці амаль немагчыма, бо высокая канюшына, якая перапляла зёлкі і краскі, стаіць сцяной — дываном. А пасля дажджу трава такая мокрая!

Спыніцца няма дзе і таму плывём далей уздоўж вострава і на яго паўночным выступе знаходзім месца для лагера.

У чырвоных прамянях заходзячага сонца ставім палатку, распальваем вогнішча, гатуем вячэру. Лена з Людай вараць грыбны суп і макароны, хлопцы нарыхтоўваюць дровы — на востраве гэта вялікая праблема. Ужо ў прыцемках, пры святле вогнішча, вячэраем, п'ём гарбату, трохі іграем на гітары ды без энтузіязму спяваем. Дзень мінулы быў вельмі насычаны і фізічна, і эмацыянальна, і інтэлектуальна…

Пасля вячэры па целу разліваецца прыемная стома і прапанова «пайсці ў люлю» знаходзіць разуменне і поўны кансенсус.

Прыемна засынаць на востраве Замак у водары траў пад краканне зусім блізкіх качак…

*27 чэрвеня*

Прачынаюся ад галасоў: мае «кампаньёны» ля вогнішча абмяркоўваюць нейкія праблемы. Ужо ўсе займаюцца справамі: хлопцы кухараць, дзяўчаты ім дапамагаюць, а брат падаўся на рыбалку — адзін я цешу сябе асалодай сноў

на Замкавай выспе. Сонечныя прамяні падаюць на палатку і яна, аранжавая, стварае колерную атмасферу ўрачыстасці і свята.

Разганяю сны і далучаюся да спраў экспедыцыі. Пакуль Дзяніс рыхтуе ежу, мы ўпяцёх на лодках плывём на паўднёвы бок вострава, падымаемся на замкавую гару і аглядаем берагі возера Мядзел. Бачым затоку пры Волачку, дачныя домікі, каля якіх былі ўчора. Несумненна, жыхары гэтага гарадзішча і Замка мелі дачыненне да волаку: з вострава так добра праглядаецца заліў, адкуль волак пачынаецца, добра відаць і паўночны бераг…

Пасля сняданку ўладкоўваемся ў лодкі. «Карабель» хлопцаў заўважна падцякае і таму Дзяніс садзіцца да нас.

Па возеру плывём як па люстэрку. Надвор'е цудоўнае і нішто не нагадвае ўчарашнюю буру. Наперадзе высокай глыбай ўздымаецца паўвостраў Дубавы — яшчэ адзін унікальны аб'ект на мядзельскім возеры. Дарэчы, ўжываючы спалучэнне «мядзельскае возера», я маю на ўвазе возера Мядзел. У гутарках, а то і ў літаратуры, бывае, сустракаецца блытаніна, бо горад Мядзел стаіць на возеры Мястра, на якім таксама ёсць востраў Замак.

Уздоўж паўвострава плывём у суправаджэнні сямейства лебедзяў. Сам паўвостраў пакідае на гэты раз непрыемны ўспамін, і прычына таму — калгасныя бычкі ды цялушкі. Іх загналі на паўвостраў, загарадзілі, і яны там гуляюць на волі. У выніку іх «выгулу» трава ўся здратавана, берагі павыбіваны капытамі, утвораны сцежкі, а паверхня і ўсё ўзбярэжжа запэцкана «блінамі». Няўжо ў галандцаў і датчан, якія жывуць ля мораў і лідзіруюць ў Еўропе па малаку ды мясу, тамтэйшыя бычкі ды кароўкі спраўляюць свае натуральныя патрэбы проста на марскіх узбярэжжах?..



Мінаем дзве старажытныя археалагічныя стаянкі, якія вывучаны навукоўцамі і абследаваліся намі раней, таму мы ля іх не спыняемся.

Берагі возера паступова сходзяцца, утвараючы затоку, якая моцна зарасла трыснягом і гарлачыкамі. Дзесьці тут павінен быць выток Мядзелкі. Ладдзя хлопцаў мужна прабіваецца праз водную расліннасць і хутка мы чуем радасныя воклічы нашых вандроўнікаў: выток знойдзены!

У апошні раз акідваем вокам лагодную роўнядзь возера і накіроўваемся на поўнач — туды павядзе нас Лясная рэчка (так перакладаецца назва ракі з угра-фінскіх моў). Мае меркаванні наконт таго, што выток будзе моцна зарослы і мелкаводны, не спраўдзіліся: перад намі звіваецца змейкай даволі чыстае і шырокае (4–5 метраў) рэчышча, а глыбіня дасягае больш двух метраў. Павольная плынь нясе ладдзю і плыць прыемна. У хуткім часе падплываем да бетоннага моста, ля якога нас вітаюць дарожныя рабочыя. Мне здаецца, што яны з зайздрасцю пазіраюць на наша, такое рамантычнае, падарожжа. І сапраўды, плыць стала цікавей. Дзве ладдзі адарваліся ад нас і пайшлі наперад: зрэдку то справа, то злева мы чуем галасы нашых сяброў. Рака моцна меандруе, як бы блукаючы пасярод вялікага травяністага балота. Мы бачым ваду, сцяну трыснягу абапал рэчкі і блакітнае неба са спякотным сонцам. Настрой цудоўны. Спяваем. Каб жа так усю дарогу!

Але вось і першы прыпынак: праз рэчку бабрамі перакінуты два таўставатыя дрэвы. Рассякаем іх і плывём далей. Сонца падымаецца ўсё вышэй, пара абедаць, але спыніцца няма дзе, бо берагі забалочаныя і краёў балоту не відаць: сярод высокага трыснягу стаяць хворыя бярозы, ды, бывае, трапляюцца зараснікі лазы.

На адным з паваротаў даганяем брата. У яго — нечаканае здарэнне: ладдзя зачапілася за корч пад звісаючым дрэвам і перакулілася. Віктар, сам таго не жадаючы, пакупаўся. Добра, што рыштунак і палатка, якія былі закручаны ў цырату, не прамоклі і не патанулі, а то глыбіня там метры са два…

Губляем арыентацыю па карце: рака робіць такія петлі, што галасы Андрэя і Жэні чуем зусім побач у трыснягах, хоць плывём быццам бы на поўнач.

У хуткім часе зноў даганяем Віктара. Цяпер прычынай стала браканьерства: рака перагароджана міражай. Адвязваем адно крыло, распускаем карму. У міражы — адзін сапсаваны лінёк, відаць, даўно яе не правяралі.

Аднастайны пейзаж пачынае надакучваць. Ды і есці хочацца. Зноў наплываем на міражу. На гэты раз прыйшлося папрацаваць, каб разабраць закол і выцягнуць з вады намоклыя жэрдкі. Перад намі з'яўляецца яшчэ адна лебядзіная сям'я. Так і плывём: лебедзі наперадзе, а за імі тры ладдзі. Каб сфатаграфаваць зверху, то, напэўна, цікавае атрымалася б відовішча.

Балота паступова становіцца сушэйшым, і нарэшце перад намі вырастае бетонны мост — перасякаем дарогу на Маўчанкі. Доўга ж блукалі…

Робім прывал, пад мостам распальваем вогнішча, робім хуткі абед. Пераганяем лебедзяў назад, у сваё балота. Адпачываем і ўносім папраўкі ў маршрут. Калі плыць добрым тэмпам, то да Варанца можам дабрацца.

Рушым далей і ўпэўніваемся, што рамантыка падарожжа рэзка змянілася на прозу барацьбы са стыхіяй, бо адразу за мостам уклон ракі значна павялічыўся, плынь стала шпарчэйшая, а само рэчышча звузілася. Заторы ідуць адзін за адным. На першым, дзе бабры зноў троху запрудзілі раку



бярвеннем, мусім карыстацца сякерай, а дзяўчат высадзіць на бераг, каб перацягнуць лодкі. Пры пасадцы ў ладдзю назіраем драматычна-вясёлы атракцыён: Лена, трымаючыся за бераг, становіцца ў лодку, тая адплывае і дзяўчына павісае над вадой. Фотаапарат знаёміцца з $H_2O$. Дапамагаем парадамі і справай — купанне не адбылося.

Пакуль што весела, але заторы ідуць зноў і зноў, і, ўрэшце, на перакаце ля старога моста яны змяняюцца сапраўдным завалам. Мусім лезці ў ваду і перацягваць лодкі па чарзе. З гэтага часу з вады амаль не выходзім.

Вёска Маўчанкі. Новы мост. Жэня прапаноўвае спыніцца тут на начлег, бо сонца садзіцца за лес, а плаванне ператварылася ў перацягванне нашых «караблёў» праз дрэвы ды завалы.

Ўсё ж вырашаем праплыць далей наколькі гэта магчыма. І зноў завалы. Настрой зусім сапсаваны, бо ўсе мокрыя і змучаныя.

Плывём, дакладней, цягнем лодкі па рацэ каля агародаў вёскі Маўчанкі. Да чарговага завалу падыходзяць два мясцовыя мужыкі пад вялікім градусам. Прыносяць вялікую пілу, дапамагаюць (больш парадамі) перацягнуць «караблі». Дзякуем і развітваемся.

Сонца села. Пад навесам дрэў на рэчцы робіцца змрочна і цёмна. Яшчэ два павароты і падплываем да старога, паўразбуранага моста. Ўсё! Сіл змагацца са стыхіяй больш няма ні фізічных, ні эмацыянальных. Рэчка Мядзелка спачатку нас пацешыла, а потым уволю паздзекавалася…

Выцягваем рыштунак на бераг, аглядаем мясцовасць. Развілка палявых дарог, шырокая травяністая паляна з некалькімі старымі і высокімі соснамі. Іншага месца няма — ставім палатку, распальваем два вогнішчы, каб згатаваць вячэру ды хоць троху высушыць адзенне.

Вячэраем у цемры. І тут здараецца незвычайная з’ява: у каструлю з вадой, што стаіць на вогнішчы, залятае вялікі начны матыль. Ён адчайна б’е крыльцамі, але не можа вырвацца з палону. Люда свеціць свечкай, а я спрабую вылавіць яго з варыва. Але што гэта? Нейкія кіпцюры, перапонкі… Фу, агіда! Гэта ж лятучая мыш! Выкідваю яе на пясок і яна хуценька адпаўзае ў цемру, няўклюдна цягнучы за сабой два вялікія крылы.

Канешне, жаданне піць гарбату з каструлі, у якой пакупалася лятучая мыш, адразу прападае. Прыходзіцца мне ісці ў цемру за вадой, спускацца па абрывістаму берагу да ракі, якая так пасмяялася сёння над намі…

Пасля вячэры частка ўдзельнікаў экспедыцыі пайшла спаць; засталіся ля вогнішча Андрэй і дзяўчаты. Спяваем песні, расказваем гісторыі, успамінаем вострыя моманты вандроўкі. Паступова сон агортвае ўсіх маіх вандроўнікаў і яны ідуць спаць. Толькі я яшчэ доўга сяджу пад зорамі і назіраю, як памірае агонь у вогнішчы.

*28 чэрвеня*

Учарашняя гераічная барацьба з заваламі азмрочвае раніцу непрыемным успамінам. У палатцы камфортна, але варта прыгадаць разбураны мост, мокрыя лодкі ў захламленай рэчцы і аптымістычны настрой адразу набывае нейкія змрочныя адценні.

Раніца пачынаецца з вечнага пытання «што рабіць?» Пакуль усе вандроўнікі завіхаюцца каля вогнішча ды палаткі, вырашаю прайсці троху ўздоўж рэчышча, каб ацаніць сітуацыю. Надзеі на тое, што ніжэй па цячэнні будзе чысцяк, канешне ж, мала. І ўсё ж…

Чым далей іду, тым болей упэўніваюся ў тым, што мы патрапілі ў пастку. Тут гаспадараць на рэчцы бабры. Не



адзін-два, а, пэўна, цэлая калонія. Нібыта бура прайшлася ўздоўж рэчышча: вялікія дрэвы ляжаць папярок Мядзелкі, як гіганцкія шпалы. Без бензапілы не прабіцца…

Вяртаюся ў лагер і склікаю Вялікі Сход.. Вырашаем выцягнуць ладдзі на бераг і паспрабаваць выклікаць транспарт.

Брат з хлопцамі займаецца лодкамі, згортвае лагер, а я іду ў вёску шукаць тэлефон. У хаце насупраць крамы ёсць неабходны сродак сувязі. Гаспадар сустракае падазрона і не дужа прыветліва. На просьбу пакарыстацца тэлефонам, мужык адказвае пытаннем:»А хто плаціць будзе?» Задаволіўшыся беларускімі зялёнымі ён стаў лагаднейшы і нават пачаў даваць непатрэбныя парады.

З транспартам удалося дамовіцца і засталося толькі чакаць. Лодкі ўсцягнулі на бераг, падрыхтавалі абсталяванне. Хлопцы пайшлі распытваць вясковых жыхароў. Ад мясцовага пчаляра даведаліся, што зусім побач, за нізінай, знаходзіцца Лысая гара, якая акрамя сваёй назвы нічым не адметная. Іду на гару, бо назва інтрыгуе. Лысая гара аказваецца не дужа высокай і спрэс парослай хмызняком ды бярозамі. Прыкопкі нічога цікавага не паказалі.

Расчараваны, вяртаюся ў лагер. Як раз пад’язджае трактар. Грузім лодкі, палаткі, рыштунак, а самі працягваем сваю вандроўку пешшу. Уздоўж Мядзелкі ідзём на Ідаліну.

Праз паўгадзіны падыходзім да вёскі. Яна месціцца на высокім адметным узвышшы і выглядае даволі цывілізавана: хоць хат там і мала, але на вуліцы ляжыць асфальт. На прызбе адной з хат сустракаем старую, якая грэецца на сонцы і з цікавасцю разглядае нас. Знаёмімся, распытваем пра жыццё ды пра ваколіцы. Жанчына аказваецца цікавай расказчыцай. Яна распавядае пра свае і мужавы хваробы, пра зяця — былога старшыню калгаса, які і заасфальтаваў

вуліцу, пра святы і абрады мінулых часоў. Пра Мядзелку гаворыць з захапленнем: «О, пры Польшчы гэта была чыстая і шырокая рэчка. Такія віры — дна не дастанеш. Летам часта паны на каяках плылі з Вільні ў Нарач адпачываць. Да знаёмых у Мядзелі з Польшчы таксама па Мядзелцы кожнае лета сваякі прыплывалі. Каля берага ёсць могільнік нямецкі першай вайны. Дык, кажуць, у другую тут немец-сын магілу свайго бацькі знайшоў. А цяпер дык і рэчка саўсім абмялела ды захламілася, а магілы нейкія нелюдзі параскопвалі…»

Жадаем жанчыне здароўя і развітваемся. Ідзём па асфальтаванай вясковай вуліцы і абмяркоўваем пачутае. За аўтатрасай Полацк — Вільня пад нагамі ўжо шаргаціць жвір — дарога вядзе на Параскі. Не даходзячы да вёскі збочваем да возера Варанец. Маляўнічае, амаль правільнай круглай формы, з сіняй вадой і зелянінай лясоў на вакольных курганах, яно вабіць сваёй прыроднай чысцінёй. Фатаграфуемся на тле возера і побач з нямецкім бетонным дотам першай сусветнай вайны.

Сонца паднялося высока. Спёка ўзмацняецца, але ісці лёгка, бо вакол — шаты Манькаўскага лесу. Па колішняму бальшаку Паставы-Мядзел, а зараз зарастаючай лясной дарозе, кіруемся ў вёску Дзеравянкі. Гэта невялічкае паселішча ляжыць у аблозе балот і лясоў на самым беразе прыгожага возера Доўжа. Тут мы купаемся і абедаем.

Экспедыцыя скончылася і самы час падвесці першыя вынікі. У асноўным, тое, што планавалася, было дасягнута. Знойдзены дадатковы доказы існавання воднага шляху і вызначаны элементы волакаў.

Даследаванні — гэта працэс, дзе новыя адкрыцці нараджаюць новыя пытанні і праблемы. І гэта — тэмы новых вандровак і экспедыцый.



Па ступені дасягнення пастаўленых мэтаў краязнаўчую экспедыцыю можна лічыць паспяховай. За час вандроўкі ўдалося абследаваць водападзел паміж азёрамі Мястра і Мядзел, вывучыць прыродны стан і археалагічныя аб’екты усходняга берага воз. Мядзел і вострава Замак, агледзіць вытокі і вярхоўе ракі Мядзелкі.

Асноўнымі навуковымі вынікамі экспедыцыі можна лічыць наступныя:

I. Доказы існавання волака:
- знаходжанне на водападзеле вёскі Волачак;
- сведчанні мясцовых жыхароў аб існаванні раней сістэмы «канаў» паміж азёрамі Мядзел і Мястра;
- знаходжанне на водападзеле вялікага гарадзішча «Чорная гара» каля вёскі Мікольцы;
- наяўнасць старажытных назваў вёсак (Мінчакі — аднакарэнная з Мінскам; Стомы, Скары);
- знаходжанне Кальварыі каля воз Рудакова;
- наяўнасць штучных рэчышчаў ручаёў;
- разгалінаванне ручая каля в. Стомы;
- знаходжанне рознаўзроўневых балот (былых вадаёмаў) на водападзеле;
- размяшчэнне выцягнутай лагчын — Амшары — паміж азёрамі Мядзел і Мястра;
- знаходжанне старажытных могілкаў каля воз. Мястра;
- сведчанні мясцовых жыхароў, што яшчэ ў 30-я гады XX стагоддзя адбывалася даволі інтэнсіўнае плаванне на лодках па Мядзелцы з Вільні ў воз. Нарач.

II. Археалагічныя пошукі:
- праведзена абследаванне гарадзішчаў «Чорная гара» каля в. Мікольцы і «Замак» на воз. Мядзел;
- сабраны пад’ёмны археалагічны матэрыял для калекцый (рэшткі керамічнага посуду, глінянае праселка).

III. Праведзена экалагічнае абследаванне волаку, воз. Мядзел і верхняга цячэння Мядзелкі. Выяўлена, што:

- самымі забруджанымі арэаламі з'яўляюцца ваколіцы возера Рудакова і паўднёвы бераг возера Мядзел каля в. Волачак;
- на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Мядзел забруджанне лакалізавана каля арганізаваных стаянак для адпачынку:
- паўвостраў Дубавы знаходзіцца пад моцнай сельскагаспадарчай нагрузкай з прычыны выпасу там цялят;
- найбольш экалагічна чыстымі месцамі з'яўляюцца востраў Замак і балота ў вярхоўях ракі Мядзелка.



## Адметныя мясціны на мядзельскіх волаках

На вузкай паласе сушы, што ляжыць паміж азёрамі Мядзел і Мястра, да сённяшняга дня захавалася значная колькасць розных прыродных і гістарычных аб'ектаў, якія выклікаюць цікаўнасць у кожнага падарожніка. Адны з іх вялікія і добра заўважныя, другія трэба пашукаць для таго, каб мець магчымасць убачыць.

Павандруем па ўзвышшах і лагчынах у ваколіцах Волачка і пазнаёмімся з тымі цікавосткамі, на якія багаты гэты маляўнічы куточак беларускай зямлі. Але спачатку — пра самае вялікае багацце гэтага краю — азёры.

**Возера Мядзел.** Мядзел — адно з прыгажэйшых азёр Беларусі. Высокія, са стромкімі схіламі берагі перамяжоўваюцца з берагамі нізкімі, забалочанымі; смалістыя сасновыя лясы меладычна спяваюць песні вятроў; маляўнічыя астравы фантастычнымі караблямі плывуць па хвалях воднай прасторы. Возера — даволі вялікі вадаём з плошчай каля 16 км$^2$ і глыбінямі да 24-х метраў, з моцна зрэзанай берагавой лініяй і групай астравоў. Паўастравы і затокі ўтвараюць шмат прыгожых куточкаў на ўсім узбярэжжы. Асабліва выдзяляецца ў паўднёвай частцы возера дзіўная пясчаная каса, якая працягнулася на два кіламетры. На супрацьлеглым баку ўзвышаецца над наваколлем масіўны паўвостраў Дубавы.

Возера адносіцца да сістэмы ракі Мядзелка, басейна Заходняй Дзвіны. Мае катлавіну падпруднага тыпу, авальнай формы, выцягнутая з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Возера акружана высокімі схіламі да 15–20 метраў

як правіла, стромкімі, толькі на поўдні і поўначы яны больш спадзістыя. Паўсюдна ўздоўж берагі прасочваецца пойма шырынёй 10–250 метраў.

Дно мядзельскага возера таксама мае складаную будову. У заходняй частцы яно больш выраўненае і мае глыбіні 9–11 метраў. Усходняя частка глыбейшая. Тут, у вузкім жолабе, які цягнецца з поўначы на поўдзень, глыбіні перавышаюць 24 метраў. Дно вадаёма няроўнае, на ім ёсць выспы, падняцці, водмелі і глыбокія западзіны. Усяго на возеры налічваецца восем астравоў агульнай плошчай 0,24 км$^2$: Замак, Селішча, Уклейна, Круглова, Гарадок, Бярозава, Кульчина, Астравок.

У возера нясуць ваду шэсць невялікіх ручаёў, а выцякае адна вельмі маляўнічая рачулка Мядзелка. Увесь аб'ём вады ў возеры мяняецца адзін раз у пяць гадоў.

У вадаёме сустракаецца шмат відаў водных раслін. Па берагах растуць трыснёг, чарот, хвошч, аер, асака, глыбей — харавыя водарасці, урэчнікі, рагалістнік, эладэя, целарэз. Агульная шырыня паласы расліннасці — да 300 м.

Возера багатае на рыбу. Тут водзяцца шчупак, акунь, лешч, плотка, язь, чырвонапёрка, лінь, уклейка, гусцяра, сом, мянтуз, судак, сялява, вугор і іншыя.

Рыбныя багацці возера заўсёды вабілі людзей і многія жыхары прыбярэжных вёсак займаліся рыбалоўствам. Вадаём падзяляўся на часткі паміж уласнікамі. Памер воднай часткі залежаў ад таго, колькі ў таго ці іншага жыхара прыазёрнай вёскі было ўласнай зямлі. Самыя лепшыя тоні (Зелянуха, Лескавіца) належалі пану Козел-Паклеўскаму. У асноўным жа лоўляй рыбы займаўся жыхар вёскі Волачка Вештарт. Ён арандаваў возера ва ўладальнікаў. У вёсцы Пярэградзь сума арэнднай платы складала каля 200 злотых



у год. Грошы гэтыя дзяліліся паміж вясковымі гаспадарамі ў залежнасці ад таго, колькі хто мае зямлі, адпаведна — і возера.

З вяскоўцаў у Пярэградзі лавілі рыбу ў асноўным Клечкі і Максімовічы. Жанчыны вазілі яе прадаваць па суседніх вёсках. Прытрымліваліся даўняй меры: вядро рыбы — вядро жыта або пшаніцы. Вештарт жа меў вялікія скляпы-лядоўні і рыбу вазіў у Вільню або здаваў на перакупку яўрэям, якія дастаўлялі яе ў іншыя гарады.

Частка возера Мядзел была агульнай, так званай уступнай. Там мелі права лавіць рыбу ўсе жадаючыя жыхары прыбярэжных вёсак. Плата за арэнду з іх не бралася.

Пры Польшчы некаторыя багатыя людзі спрабавалі купіць востраў Замак, каб пабудаваць там дамы адпачынку для заможных людзей. Але гэта не атрымалася, бо уласнікі вострава яго не прадалі.

## Легенда і сучаснасць

*У даўнія часы на выспе, абнесенай крэпасцю, жыла каралеўна, мела пры сабе войска. Падчас вайны са шведамі яе палац і ахова былі знішчаныя. Разбураны і мост, які быў пракладзены да выспы з боку вёскі Скары. Некаторыя рыбакі ўзгадваюць тыя вялікія слупы, забітыя ў неглыбокае дно. Падчас лоўлі рыбы за слупы часта чапляліся сеткі. А месца гэта і да нашага часу носіць назву Маставіца.*

*Дарэчы, цікавы факт. У канцы 60-х — пачатку 70-х гг. тут праводзіліся здымкі мастацкага фільма па раману У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Акцёр у выяве Хрыста ішоў па падводных слупах возера Мядзел, а ў сюжэце падавалася, што ён ідзе па вадзе.*

**Востраў замак на возеры Мядзел.** Амаль у цэнтры возера ўзвышаецца над вадой высокі маляўнічы востраў Замак. У раннім сярэднявеччы тут знаходзілася даволі вялікае і багатае паселішча, якое развівалася, дзякуючы свайму выдатнаму геаграфічнаму становішчу. У тыя часы праз возера ішоў водны шлях з Дзвіны ў Нёман, што давала магчымасці гандляваць, але і таіла ў сабе небяспеку стаць аб'ектам нападу з боку няпрошаных гасцей. Таму паселішча падзялялася на дзве часткі: умацаваную — Гарадзішча, Замак, і адкрытую — Селішча.

Гарадзішча займае мыс узвышша, вышыня якога над узроўнем вады ў возеры перавышае 10 метраў. З паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга бакоў раней таксама была вада, але зараз мелкаводдзе зарасло і ператварылася ў балота. З паўночна-заходняга боку гарадзішча ўмацоўвалася ровам глыбінёй каля пяці і шырынёй да дваццаці метраў.

Адметная выспа здаўна вабіла навукоўцаў. Першыя даследаванні былі праведзены яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Многія вядомыя археолагі праводзілі тут раскопкі і разведку. У 1934 годзе на Замку працавалі А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1956 г. — Л. Аляксееў, у 1981 г. — М. Ткачоў, у 1985 г. — Я. Звяруга. Іх даследаванні дазволілі выявіць наступнае. Пляцоўка гарадзішча мела авальную форму памерамі 50 × 70 метраў. З боку сушы яна мацавалася дадаткова падкowападобным гліняным валам вышынёй да 5 метраў, схілы якога былі абкладзены камянямі-валунамі. Археолагі знайшлі ганчарную кераміку X–XV стагоддзяў, жалезныя нажы, тачыльныя брускі, шыферныя праслiцы, абломкі жорнаў, кавалкі шлаку, косці жывёл, птушак, раб. У насыпе вала выяўлены рэшткі апаленых драўляных канструкцый, якія сведчаць пра тое, што замак меў яшчэ і абарончыя сцены. Слаі попелу дазваляюць зрабіць выснову, што ўмацаванае паселішча тры разы нішчыў пажар.



Вакол гарадзішча знаходзілася неўмацаванае селішча. У час раскопак выяўлены кавалкі жбаноў XI–XII стагоддзяў, кераміка XIII стагоддзя, тачыльны брусок, бронзавая спражка з язычком, іншыя бытавыя рэчы. Таўшчыня культурнага пласта складала 60–70 сантыметраў.

Жыццё на Замку спынілася ў першай палове XV стагоддзя. Мясцовае паданне гаворыць пра тое, што востраў быў пакінуты людзьмі пасля эпідэміі халеры, ад якой загінулі амаль усе жыхары. Выжылі толькі дзве сям'і, якія, пакінуўшы страшнае месца, перасяліліся на бераг возера Мястра, заснаваўшы новае паселішча, якое пазней атрымала назву Стары Мядзел. Між іншым, у час першай сусветнай вайны рускія салдаты, капаючы акопы, неаднаразова натыкаліся на вялікія магілы. Шкілеты ў магілах былі засыпаны вапнай. У час сярэднявечча так звычайна рабілі, калі хавалі памерлых ад заразных хвароб.

Цяпер з вялікай доляй верагоднасці можна сказаць, што на востраве Замак у раннім сярэднявеччы знаходзілася ўмацаваная крэпасць Полацкай зямлі. Пра яе згадвае ў сваім пасланні ад 22 верасня 1324 года вялікі князь Гедымін епіскапам Дэрпцкаму, Эзельскаму, Дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і радзе г. Рыга. Дакумент паведамляе, што крыжакі Тэўтонскага ордэна парушылі мір, а «…таксама яны бадай што захапілі б наш замак Мядзела, калі б ён не быў так добра ўмацаваны, аднак яны забілі мноства людзей, а іншых павялі з сабою.»

У XVI стагоддзі жыццё на Замку, напэўна, аднавілася, але колькасць жыхароў была зусім невялікая, бо водны шлях праз Волак ужо не існаваў. У інвентары Старога Мядзела ад 1584 года ёсць звесткі пра тое, што на востраве возера

Мядзел знаходзілася адзіная ў маёнтку «руская», гэта значыць праваслаўная царква.

## Гісторыя вострава замак

*З успамінаў Адольфа Іванавіча Клечкі, ураджэнца вёскі Пярэградзь*

*У пачатку мінулага веку востраў Замак належаў пану Козел-Паклеўскаму (маёнтак жа яго знаходзіўся ў Верачаце, што непадалёку ад вёскі Юшкавічы). А на Замку быў таксама вялікі дом (цяпер ад яго застаўся падмурак даўжынёй прыкладна 25 і шырынёй 10 метраў, мураваныя каменныя скляпы).*

*У пана Козел-Паклеўскага быў сын, які пахаваны на могілках вёскі Пярэградзь (аб гэтым сведчыць устаноўлены помнік), і дзве дачкі — Ванда і Станіслава, якія жылі ў Вільні. Дочкі рэдка сюды прыязджалі. Жылі там, як расказвалі людзі, «на шырокую нагу», у выніку займелі вялікую запазычанасць перад банкам. З-за гэтага землі Козел-Паклеўскага сталі распрадавацца. У пана застаўся толькі востраў з драўляным прыгожым домам. З Вільні сюды прыязджала сям'я ўлетку. А круглы год тут жылі слугі — жанчына Цыцэля з вёскі Пярэградзь і Міхневіч. Яны трымалі дзвюх кароў, каня, сцераглі дом, мелі лодкі.*

*У 1914 годзе пачалася вайна. Калі руская армія адступала, востраў занялі немцы. Пад рукі яны вывелі пана Козел-Паклеўскага, які быў якраз там, пасадзілі ў лодку, паплылі да паўвострава Дубавое, пасля адправілі яго ў тыл, хутчэй за ўсё ў Вільню. Цыцэля з панам не паехала, засталася ў Пярэградзі.*



*Немцы атабарыліся на востраве. Рускія пачалі адбіваць яго. Ад артылерыйскага снарада згарэў дом. Пасля яны зрабілі вялікія лодкі, якія ўмяшчалі па 10 чалавек. На дзве з іх пасадзілі па 8 адважных ваяўнічых казакаў і загадалі плыць да Замка. Цёмнай ноччу, пад вецер, ціха і непрыкметна планавалі высадзіцца на бераг. І ўсё ж немцы іх заўважылі. Казакаў з адной лодкі ўсіх пабілі (на беразе стаялі слупочкі, дзе іх пахавалі). Другая лодка паспела схавацца ў начной цемры і вярнуцца на бераг.*

*Затым немцы самі пакінулі востраў. Яго занялі рускія. Накапалі там акопаў, нарабілі зямлянак. У час рэвалюцыі 1917 года востраў стаў нічыім. Тады мой дзед вырашыў выкарыстаць яго для вядзення сельскай гаспадаркі. У 1923 годзе паехаў з сынам (маім бацькам) у Вільню, адшукаў там дачок пана Козел-Паклеўскага Ванду і Стасю, законным чынам афармілі куплю-продаж Замка. Заплацілі за яго 400 долараў. Дзеля гэтага прадалі коней, кароў, новую лазню і іншае. Сыны дзеда Ян Пятровіч (мой бацька) і Клеманц Пятровіч (дзядзька) цягнулі жэрабя, каму якая палова вострава дастанецца.*

*На востраве было 6 гектараў ворнай зямлі. Сеялі жыта, пшаніцу, гарох, саджалі бульбу. Усё расло добра. Была і сенажаць, і выгараджаная паша для жывёлы. Дабіраліся туды на лодцы (900 метраў вадой). Коні плылі ззаду, прывязаныя за аброць. На востраве былі хлявы і паветкі для сена. Назапашанае ўлетку дабро вывозілі зімой на санях па лёдзе.*

**Старажытныя паселішчы на астравах Гарадок і Уклейна.** За 150 метраў на паўночны ўсход ад вострава Замак ляжыць маляўнічы, абкружаны трыснягамі, астравок Гарадок. У яго цэнтральнай узвышанай частцы знаходзіцца

гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі, якое выявіў у 1970 годзе М. Чарняўскі, а абследаваў у 1985 годзе Я. Звяруга. Паводле археолагаў, гарадзішча мае авальную пляцоўку памерамі 50 × 20 метраў і выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Вышыня над узроўнем вады складае 3–6 метраў. Ніякіх земляных умацаванняў не выяўлена. Знойдзена кераміка пачатку I тысячагоддзя нашай эры. Раскопкі на гэтым гарадзішчы яшчэ не праводзіліся.

За 250 метраў ад вострава Гарадок ляжыць яшчэ адзін сімпатычны астравок Уклейна (Куклеева). На ім тыя ж М. Чарняўскі і Я. Звяруга адкрылі і абследавалі старажытнае селішча часоў культуры штрыхаванай керамікі. Плошча яго ўсяго 0,5 га. Раскопкі таксама пакуль што не праводзіліся.

На адлегласці 1 кіламетр на паўднёвы ўсход ад возера Мядзел знаходзіўся курганны могільнік. Па звестках археолага Л. Пабаля, некалькі курганоў у 60-я гады XX стагоддзя было раздзьмута ветрам, што дазволіла ўстанавіць, што пахавальны абрад на могільніку — трупаспаленне.

**Возера Мястра.** Мястра — возера ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці Беларусі. Належыць да сістэмы ракі Нарачанка, якая з’яўляецца правым прытокам Віліі і ўваходзіць у Нарачанскую групу азёр. З суседнімі азёрамі злучаецца невялікімі пратокамі. З усходу ў возера ўпадае рака Дробня, якая бярэ пачатак у возеры Батарына. Яе даўжыня ўсяго 1,4 кіламетры. На захадзе з Нараччу возера злучаецца пратокай Скема. Даўжыня яе ўсяго 166 метраў, шырыня — ад 4 да 8, а найбольшая глыбіня — 0,8–1,3 метра.

У возеры вучоныя выявілі 48 відаў водных раслін, 102 віды фітапланктону, 56 відаў зоапланктону. Таксама налічваецца 56 відаў і форм донных жывёл, у тым ліку 30 хіранамід і 9 малюскаў.



Спрыяльныя ўмовы станоўча ўплываюць на развіццё колькасці і разнастайнасці рыб. У возеры водзяцца ляшчы, шчупакі, вугры, плотка, яльцы, язі, краснапёркі, ліны, печкуры (крумлі), укляя, гусцёрка, самы, мянтузы, акуні, карасі. Возера неаднаразова зарыблялася судакамі, срэбнымі карасямі, сазанамі. На Мястры шырока развіта прамысловае і аматарскае рыбалоўства.

На беразе возера знаходзіцца шэраг населенных пунктаў: горад Мядзел і вёскі Мікольцы, Гатавічы, Гірыны, Качаргі.

Возера Мястра ўваходзіць у курортную зону «Нарач» і Нацыянальны парк Нарачанскі.

## Возера назвалі Мястрам

*Легенда*

*Жыў-быў калісьці каваль, знакаміты на усё наваколле. Майстар на ўсе рукі. З добрым сэрцам, светлымі думкамі, павагай да людзей. Кузня стаяла на беразе возера. Пра каваля ведалі далёка. Тут не раз спыняліся коннікі — рыцары, падарожнікі. Прасілі падкаваць коней, вырабіць стрэмя (прылада для сядла). Адзін з падарожнікаў, які не спяшаўся ў дарогу, на дошцы выразаў слова «Стрэмя».*

*Каваль гэту шыльду прымацаваў да слупа, побач павесіў стрэмя. Вобразна і зразумела.*

*Аднойчы маладая прынцэса з замка на паўвостраве ля Мядзела даведалася пра каваля-ўмельца і захацела пабачыць яго на свае вочы. Той чуў, што прынцэса злосная, ганарлівая, карае бязлітасна сялян і сваіх слуг. Адразу спадабаўся прынцэсе малады, дужы каваль. Прынцэса прапанавала пераехаць кавалю у замак. Каваль сказаў, што паведаміць аб сваёй згодзе на наступны дзень. Заставацца*

*на гэтым месцы не захацеў і адразу пасля ад'зду прынцэсы і яе світы ўзваліў на павозку ўсе свае кавальскія прылады і паехаў у белы свет. Спяшаючыся, не забраў з сабой шыльду «Стрэмя».*

*Прынцэса заявілася на другі дзень, а там пуста. Разгневаная, загадала разбурыць кузню і хату непаслухмянага чалавека. Адзін са слуг разламаў шыльду «Стрэмя» і кінуў у ваду. Яе часткі, падхопленыя хвалямі, паплылі на поўнач. Там, на крутым беразе, дзе цяпер Гірыны, жылі людзі. Вылавілі шыльду. Склалі часткі, пераблытаўшы іх. Замест «Стрэмя» атрымалася «Мястрэ». Гірынскія жыхары палічылі, уладар замка прыдумаў такую назву возеру. Сталі возера называць Мястрэ, а з цягам часу — Мястра.*

*Здагадалася прынцэса, што яна прычынілася да гэтай назвы, разгневалася, але нічога зрабіць не змагла.*

*А той каваль-умелец збудаваў кузню і хату пад Княгінінам. Паселішча сталі называць Кавалі. Дзеці гэтага чалавека раз'ехаліся па розных мясцінах, заснавалі другія Кавалі каля Слабады.*

**Возера Рудакова.** Рудакова — маляўнічае невялікае возера ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. Размешчана ў 1 кіламетры на паўночны захад ад Мядзела. Знаходзіцца на водападзеле паміж басейнамі рэк Мядзелка (Заходняя Дзвіна) і Нарачанка (Нёман).

Азёрныя схілы стромкія, вышынёй да 18–20 метраў, а вада вызначаецца вельмі высокай празрыстасцю. З прычыны гэтага падводная расліннасць распаўсюджана да глыбіні 9–13 метраў. Асаблівасці геаграфічнага становішча і вялікая глыбіня (28,6 м) паспрыялі захаванню ў возеры прадстаўнікоў рэліктавай іхтыяфаўны.



Сцёку возера практычна не мае. Ёсць ледзь прыкметная канава ў бок Мядзельскага возера, па якой вясной у час разводдзя сходзіць вада. Калі б гэта канава аказалася глыбінёй 4–5 метраў, то возера было б спушчана і ператварылася ў сухую глыбокую катлавіну. На шчасце, гэтага не адбылося і людзі маюць магчымасць любавацца адным з прыгажэйшых азёр Беларусі. На жаль, на ўсходнім беразе пабудаваны пансіянат, у выніку чаго ўзмацнілася забруджванне гэтага ўнікальнага вадаёма.

Назва возера паходзіць ад слова «руды» і адлюстроўвае адну з яго асаблівасцяў. Звычайна ранняй вясной пад лёдам у вадзе бурна развіваецца мікраскапічная водарасць з лацінскай назвай Oscillatoria rubescens. У гэты час яна ўтварае вялікія калоніі ў выглядзе згусткаў рэчыва чырвонага колеру.

Як і ва ўсіх глыбокіх вадаёмах, якія закрыты ад вятроў, вада ў возеры слаба перамешваецца і таму летам награваецца толькі з паверхні. На глыбіні 15–16 метраў тэмпература не падымаецца вышэй 7–8 градусаў. Па гэтай прычыне вада насычана кіслародам, што спрыяе развіццю сігавых рыб. Водзяцца ў возеры і рэдкія шыракапалыя ракі.

**Волак.** Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя паласа сушы паміж азёрамі Мядзел і Мястра была шчыльна заселена. Тут знаходзіліся гаспадскія двары Стафанполь, Ігнатаў, Волак, фальваркі Іскрынь, Востраў, засценак Роскаш, вёскі Мікольцы, Скары, Мінчакі, Целякі, Волачак.

Волак (мясцовая назва Волачка) — цяпер невялікая вёсачка ў Мядзельскім сельсавеце. У 1846 годзе на месцы вёскі знаходзіўся фальварак маёнтка Мікольцы Вілейскага павета Віленскай губерні, уладанне І. Галкі. У 1868 годзе тут быў засценак Мядзельскай воласці Вілейскага павета,

1 двор, 22 жыхары. У 1904 годзе існавалі тры засценкі: 10, 6 і 16 жыхароў. У 1921 годзе — фальварак і засценак Мядзельскай гміны Дунілавіцкага (з 1925 г. Пастаўскі) павета Віленскага ваяводства. У фальварку 7 двароў, 27 жыхароў, у засценку — 1 двор, 8 жыхароў. На 1997 год у вёсцы было 8 двароў, 21 жыхар.

Паблізу вёскі археолагамі выяўлены рэшткі славянскага паселішча на старажытным волаку з басейна Заходняй Дзвіны ў басейн Нёмана. На паўднёвы ўсход ад яе знаходзіўся курганны могільнік з пахаваннямі па абраду трупаспалення.

**Чорная Гара.** На 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі Мікольцы размешчана гарадзішча. Мясцовая яго назва — Чорная Гара. Яно займае ізаляваны ўзгорак амаль круглых абрысаў, які ўзвышаецца над прылягаючай мясцовасцю на 8–10 м. Схілы ўзгорка стромкія. З паўночнага боку да гарадзішча прымыкае забалочаная катлавіна, з астатніх бакоў — ворнае поле. Пляцоўка злёгку выпуклая, амаль круглая, памерам 40 × 35 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць.

Культурны пласт прасочваецца далёка не на ўсёй пляцоўцы. Асабліва дрэнна захаваўся ён у цэнтральнай частцы. Тут яго таўшчыня не перавышае 0,2 м. Па краях месцамі дасягае 0,4–0,5 м. Пры шурфоўцы знойдзена штрыхаваная кераміка.

З трох бакоў (захаду, поўдня і ўсходу) да гарадзішча прымыкае селішча. Да нядаўняга часу амаль уся пляцоўка разворвалася.

У час раскопак археолагамі знойдзена шмат цікавых і рэдкіх старадаўніх прадметаў. Жалезныя вырабы прадстаўлены прыладамі працы, прадметамі гаспадарчага і бытавога інвентару, узбраення і рыштунку воіна, нарыхтоўкамі і незакончанымі вырабамі.



Жатных нажоў знойдзена 5 экзэмпляраў, з іх адзін цэлы і чатыры абломкі, серп, 40 жалезных нажоў, з якіх 18 цэлыя, 20 праколак, 7 рыбалоўных кручкоў, блешня. Прадметы ўзбраення і рыштунку воіна прадстаўлены наканечнікам кідальнага кап’я — дроціка або суліцы, наканечнікамі стрэл і шпорай. Зробленыя з жалеза прыналежнасці адзення ў матэрыяле раскопак прадстаўлены шпількамі і фібуламі. Вырабы з бронзы, медзі і іншых каляровых металаў у колькасных адносінах значна ўступаюць жалезным вырабам. За малым выключэннем гэта ў асноўным жаночыя ўпрыгожанні: бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, прывескі, спіралькі і інш.

Бронзавыя прылады працы ў матэрыялах Мікольскага селішча прадстаўлены двума пінцэтамі. Гэта надзвычай рэдкія знаходкі. Яны прымяняліся для заціску і ўтрымання ювелірных вырабаў падчас іх апрацоўкі.

Асобную групу прывесак складаюць спецыяльна апрацаваныя свідраваныя зубы жывёл. Іх знойдзена 4 экзэмпляры, у тым ліку клык кабана і клык мядзведзя. Даволі частай знаходкай на Мікольскім селішчы з’яўляюцца так званыя камяні-спарышы з двух, трох і нават чатырох зросшыхся шарыкаў. Па народнаму павер’ю, знаходка такіх камянёў прыносіла шчасце.

Сустракаюцца характэрныя для культуры штрыхаванай керамікі рабрыстыя і слабапрафіляваныя гаршчкі і пасудзіны слоікавай формы, арнаментаваныя па рабры і ў верхняй частцы зашчыпамі, ямкавымі і пазногцевымі ўціскненнямі, насечкамі, нарэзамі.

Знойдзена таксама 37 грузілаў для сетак, у тым ліку 13 цэлых, 5 пашкоджаных і 19 абломкаў, якія не паддаюцца вызначэнню.

Найбольш шматлікімі пасля керамікі вырабамі з гліны з'яўляюцца грузікі для верацёнаў — праслiцы. Іх знойдзена 237 экзэмпляраў: цэлых — 104, палавінак — 41, драбнейшых абломкаў — 92.

Сярод мікольскіх вырабаў з гліны ёсць рэчы, якія, відаць, не мелі практычнага прызначэння. Гэта тры акуратна загладжаныя пліткі з добра адмучанай гліны: адна ў выглядзе васьміканцовай зоркі, другая круглая з дзесяццю рамбічнымі паглыбленнямі на адным баку, другі бок гладкі, трэцяя авальнай формы з дзвюма разеткамі на адным баку і дзевяццю мініяцюрнымі акружнасцямі на другім баку.

Асноўным заняткам жыхароў селішча каля Чорнай Гары было падсечнае (ляднае) земляробства і звязаная з ім жывёлагадоўля. Падсякаліся ўчасткі лесу, якія затым спальваліся. Попел з'яўляўся добрым угнаеннем, і першыя гады атрымлівалі даволі высокія ўраджаі. Зерне на муку пераціралі пры дапамозе зернецёрак, а пазней — жорнаў (знойдзены ніжнія і верхнія камяні зернецёрак, абломак верхняга жорнавага каменя). Па-ранейшаму важнымі галінамі гаспадарчай дзейнасці заставаліся паляванне і рыбалоўства (аб значэнні апошняга сведчаць не толькі знаходкі прылад і прыстасаванняў для лоўлі рыбы, але і вялікая колькасць касцей і лускі рыб).

Сярод хатніх рамёстваў асобнае месца займалі здабыча і апрацоўка жалеза. Калі металургіяй і кавальскай справай займаліся толькі асобныя сем'і, то бронзаліцейнай — многія сем'і. Выяўлена каля паўсотні абломкаў тыгляў — гліняных пасудзін для плаўкі каляровых металаў. Знойдзены цэлыя ці амаль цэлыя тыглі.



Асноўная частка знаходак датуецца сярэдзінай і трэцяй чвэрцю І ст. н.э. і адносіцца да банцараўскай культуры.

**Мікольцы Двор.** На ўсход ад вёскі Мікольцы, за Амшарай, ляжыць невялікая вёсачка Мікольцы Двор, або хутар Мікольцы. Апошнім часам там з'явіліся дачы, новыя жылыя будынкі, а раней, у XIX — пачатку XX стагоддзя на гэтым месцы была сядзіба І. Галкі. Маёнтак, відаць, трываў моцна, пра што сведчаць рэшткі гаспадарчых пабудоў, якія ацалелі да нашых дзён. Вялікая канюшня, свіран, гумно — дыхтоўныя збудаванні, падмурак і сцены якіх змураваны важкімі часанымі валунамі. Засталіся пакуль што і рэшткі яшчэ адной канюшні: высокія каменныя шулы ўзвышаюцца сярод хмызняку і высокай травы. Прыгажосць былога сядзібнага комплексу падкрэслівае невялікі стаў, які на сённяшні дзень абмялеў, зарос балотнай травой і кустоўем. На жаль, не захаваўся сядзібны дом і іншыя жылыя будынкі — на іх падмурках пабудаваны хаты нашчадкаў парабкаў і пралетарыяў.

У 1846 годзе ў маёнтку І. Галкі пражывала 118 сялян. Маёнтак складаўся з фальварку Волачак і вёскі Мікольцы. Маёнтку належалі 2 карчмы, адна з якіх знаходзілася на хутары Свінка, а другая — у вёсцы Мікольцы.

У 1904 годзе маёнтак і фальварак знаходзіліся ў Мядзельскай воласці Вілейскага павету. У маёнтку пражывала 39 жыхароў, у фальварку — 18.

На 1 студзеня 1997 года хутар Мікольцы складаўся з чатырох двароў, дзе пражывала ўсяго 8 жыхароў.

**Мядзельская Кальварыя.** На паўночна-заходняй ускраіне горада Мядзел, на ўсход ад возера Рудакова, знаходзіцца адметнае, адзінае ў Беларусі, святое месца

вернікаў-католікаў — Кальварыя. Абапал дарогі на Паставы на высокіх узгорках бачныя крыжы і рэшткі капліц.

Кальварыя паходзіць ад лацінскага слова kalva, што азначае «чэрап». У католікаў Польшчы, Літвы і Беларусі так называецца святое месца, куды сцякаліся натоўпы набожных, хворых, старцаў на пакаянне. Першапачаткова кальварыі ўзніклі ў 2-й палове XVI стагоддзя на ўзгорках ці ў лясах, часта на былых паганскіх капішчах. Найстарэйшая Кальварыя каля Вільні заснавана ў 1564 годзе.

Гісторыя Мядзельскай Кальварыі сягае ў сярэдзіну XVIII стагоддзя. Пасля ўзвядзення ў Старым Мядзеле мураванага касцёла Маці Божай Шкаплернай (1754 г.) манахі-кармеліты пачалі будаваць капліцы і брамы на поўнач ад храма. Верагодна, гэта работа вялася пад патранажам Кошчыцаў, уладароў мястэчка. Да 1772 года на палях каля касцёла і рынка ўжо размяшчалася 21 капліца і 8 брам, якія нагадвалі Крыжовую Дарогу ў Іерусаліме. Капліцы былі збудаваны з дрэва на каменным падмурку, унутры мелі драўляныя абразы і скульптуры. 8 жніўня 1772 года пачалося свята асвячэння Кальварыі, якое доўжылася чатыры дні. Увесь гэты час шматлікія запрошаныя госці частаваліся ў маёнтку Кошчыцаў у Старым Мядзеле. Асвяціў Кальварыю беларускі сурфаган біскуп Фелікс Тавянскі.

Пасля таго, як касцёл і парафія ў 1866 годзе былі перададзены праваслаўнаму духавенству, святое месца прыйшло ў заняпад.

У міжваенны час у 1927–1929 гадах з ініцыятывы айца Браніслава Ярасінскага пачалося аднаўленне Кальварыі. Тагачасны ўладар Старога Мядзела Генрык Паклеўскі-Козел, якому належала мясцовасць на поўнач ад мястэчка, выдзеліў пад капліцы ўчастак зямлі пад назвай «Гуркі». З дапамогай мясцовых жыхароў айцец Браніслаў вызначыў



месца для пабудоў, узяўшы за ўзор план Кальварыі Зэбжыдоўскай. Там былі пастаўлены драўляныя крыжы.

Пасля смерці Генрыка Паклеўскага-Козела кармеліты купілі ў Валадковіча 50 гектараў зямлі пад Кальварыю за грошы, атрыманыя ад продажу фальварку Мікасецк. У 1933–1938 гадах рупнасцю айца Ігнацыя Быліцы вернікамі было пабудавана 15 капліц з цэглы і камення, якія перакрываліся бляхай.

Летам Кальварыя напаўнялася пілігрымамі, якія карысталіся духоўнай паслугай манахаў-кармелітаў. Далейшую работу па аднаўленню святога месца перарвала другая сусветная вайна. 2 лістапада 1942 года Кальварыя, у якой ў той час налічвалася каля 40 капліц, практычна была разабрана і знішчана.

Да сённяшняга дня засталіся рэшткі 18-ці каменна-цагляных каплічак, месцазнаходжанне якіх абазначаюць драўляныя крыжы. Два разы на год (у ліпені і верасні) вернікі Мядзельскай парафіі Маці Божай Шкаплернай ушаноўваюць гэтыя святыя мясціны шматлюднай працэсіяй і набажэнствамі.

**Мізар — татарскі могільнік.** На захад ад Мядзела з левага боку ад дарогі на Мікольцы на паўвыспе возера Мястра знаходзяцца татарскія могілкі. Мясцовая назва — Татарская гара.

Стварацца яны пачалі вельмі даўно, верагодна з XV–XVI стагоддзяў — часу з’яўлення на тутэйшых землях прадстаўнікоў гэтага народа. Ёсць гістарычныя звесткі, што на месцы мізара раней было гарадзішча. Пра старажытнасць гэтага некропаля сведчаць пахаванні. Большая іх частка — гэта ледзь прыкметныя магілы з камянямі, якія моцна ўраслі ў зямлю. Яны знаходзяцца на паўвыспе бліжэй да вады і

зраслі густым маладым лесам. Маладзейшыя пахаванні месцяцца бліжэй да дарогі, добра дагледжаны. На помніках можна прачытаць прозвішчы пахаваных тут татар.

Могільнік выразна падзяляецца на дзве часткі: старую і новую. Старэйшая займае ўзгорак і яго заходні схіл ад берагавога абрыву да выяўнага валу вышынёй каля 0,5–1 м. Мае памеры 100 на 30 метраў. Раней з заходняга боку мелася агароджа, ад якой засталіся толькі мураваныя слупы.

Новая частка мае памеры 70 на 35 метраў і захоўвае адметныя рысы мусульманскага некропаля. Магілы значна ўзвышаюцца над зямлёй (да 0,5 м) і вакол абкладзены камянямі. У адрозненні ад хрысціянскіх надпісы на помніках знаходзяцца на процілеглым баку ад магілы. Яны выразаны на камянях або мураваных пастаментах па-руску і па-татарску, у верхніх частках помнікаў месціцца ісламская сімволіка: выявы мячэцяў, месяцы і зоркі.

На мізары знайшлі свой спачын не толькі жыхары Мядзела, але і суседніх раёнаў.

**Віктосева крынічка.** На паўночна-заходняй ускраіне Мядзела пры дарозе на Нарач насупраць азёрнай затокі ёсць дарожка, на якую часта збочваюць аўтамабілі. А прыцягвае сюды людзей дагледжаная крынічка, празрыстая вада якой прыемная на смак, надае бадзёрасць. Лічыцца, што мае яна і лекавыя ўласцівасці. Здаўна людзі карысталіся ёй, але патрэбнага нагляду за ёй не было.

І толькі ў 1997 годзе з ініцыятывы жыхара Мядзела Войцэха Пачкоўскага гэта месца добраўпарадкавалі і надалі яму прыстойны выгляд. Крыніца была ўзятая ў бетоннае кольца, над якім з камянёў склалі невялічкую каплічку, умацаваўшы ў ёй абраз Маці Божай. Высокія схілы гары, вялікія валуны ў ваколіцах, пошум дрэў, цурчанне ручаінкі прываблiваюць падарожніка не толькі набраць вады з крыніцы, але і прысесці на лаўку побач з ёй, адпачыць.



Вось што расказаў пра яе сам Войцэх Пачкоўскі: «Даўно былі вядомы лекавыя якасці гэтай крыніцы мясцоваму люду. Хоць вадзіца і прэсная, але як сталі ставіць цэмбровіну, знялі гліну, а глыбей — жарства з кавалачкаў крэмню (ваданосны слой). Стала зразумела, што вадзіца з крыніцы натуральная, крэмневая. Зрабілі бетонную накрыўку, уставілі жалезную трубку — цячэ вадзіца, і людзі карыстаюцца ёй, але мала хто ведае з гасцей. Крыніца была асвечана, над ёй зроблена каменная альтанка, вакол пасаджаны кветкі, выкладзена брукаваная сцяжынка да крыніцы.

Нехта спытае: «А чаму Віктосева крыніца?» Кажуць, што пасля вайны першым паставіў у крынічную ваду дубовую бочку без дна Віктар Звяруга — такім чынам ён хацеў добраўпарадкаваць гэтае лекавае месца. Па-беларуску ён — Віктось, вось у яго гонар і назвалі крыніцу, тым больш што яна знаходзіцца на яго былым кавалачку зямлі».

## Легенда пра Віктосеву крыніцу

*«Глыбока пад зямлёй цякла рака. Спяшалася з Рудакоўскага возера ў Мястра. У цемры яе воды не бачылі белага свету, яе берагі не ўпрыгожвалі лілеі. Аднойчы да гэтай ракі данёсся ледзь чутны чалавечы шэпт: «Такая гарачыня, ад смагі паміраем. Няма ўжо сіл дабрацца да возера, хоць яно недалёка. Відаць, загіну я і мае сябры… Неба не пасылае дажджу… Вецер разносіць хмары ў розныя бакі. Няма сіл рухацца…» Пачула гэту гаворку засмяглых людзей рака і загадала: «Ты бурлівы струменьчык-непаседа, прабіся праз*

*таўшчыню зямлі да яе паверхні, дай людзям халоднай вады, вярні ім сілы, здароўе».*

*Выслухаў струменьчык прапанову-загад і пачаў уздымацца — свідраваць цвёрдую пароду на сваім шляху, стаміўся і ўсё ж дасягнуў паверхні зямлі. Не на самім пагорку, а ля яго падножжа. Якраз там ляжалі стомленыя спякотай людзі. Скіраваўся да аднаго чалавека, забурліў, пырскі трапілі на твар, на засмяглыя вусны. Той раскрыў вочы, рот, вада туды трапіла. Пачаў піць і піць, а потым ускочыў і што было сілы закрычаў: «Уставайце, вада, вада!». Адзін чалавек вымавіў: «Жартуеш ты, Віктось, жартуеш. Адкуль будзе вада ў такую спякоту». Віктось стаў браць у прыгаршчы ваду і плюхаць усім у твар. У людзей знікла зморанасць, яны прыўзняліся на калені і папаўзлі да ручаіны. Пілі, мылі вочы, зноў пілі. Ручаінка, здавалася, засмяялася ад радасці, у яе кроплях адбілася сонца. Вада была незвычайная, гаючая. Хто застаўся ля крынічкі, а хто пабег у паселішча, каб усе спяшаліся сюды за жыватворнай вадой. Пры гэтым крычалі: «Віктось знайшоў крыніцу! Слава Віктосю!». З таго часу не спыняецца бег вады з-пад пагорка на павароце да вёскі Сабалеўшчына. Сюды прыходзяць, прыязджаюць з посудам, каб напіцца, узяць у запас халоднай, смачнай, гаючай крынічнай вады».*

**Сляды Першай сусветнай.** Па ўзгорках паміж азёрамі ў часы I Сусветнай вайны праходзіла лінія фронту паміж рускімі і германскімі войскамі. Было гэта ў 1915–1917 гадах. На ўсход ад Волачка знаходзіліся пазіцыі рускіх. Пра гэта нагадваюць зарослыя мохам і травой траншэі і акопы.

Германскія пазіцыі, якія былі ўладкаваны на захад ад Волачка каля вёсак Скары і Пасашкі, захаваліся значна лепш. Вялікія шэрыя бетонныя бліндажы і зараз сурова застылі на ўзгорках, сваім змрочным выглядам нагадваючы пра крывавыя і трагічныя падзеі Вялікай вайны. Тутэйшая зямля да сённяшняга дня захоўвае ў сабе вялікую колькасць асколкаў, куль, гільз і патронаў, бо менавіта тут адбываліся жорсткія баі у час знакамітай Нарацкай аперацыі.



**Помнік партызанам.** На ўзгорку каля вёскі Мікольцы ўзвышаецца высокі абеліск — помнік партызанам, якія ў час другой сусветнай вайны змагаліся супраць фашысцкіх захопнікаў у Нарачанскіх лясах. Недалёка ад гэтага месца 27 сакавіка 1944 года адбыўся жорсткі бой паміж партызанамі брыгады імя Варашылава і гітлераўцамі, якія прарываліся з Паставаў на дапамогу акружанаму мядзельскаму гарнізону. Акупанты былі разгромлены, аднак загінула шмат і партызан.

У 1952 годзе на месцы бою быў пастаўлены помнік і прынята рашэнне ў першую нядзелю ліпеня штогод святкаваць тут Дзень перамогі над фашызмам. У 1968 годзе стары помнік знеслі, а на яго месцы пабудавалі велічны абеліск вышынёй 24 метры, на якім запісаны назвы партызанскіх брыгад і атрадаў, што змагаліся з ворагам на тэрыторыі Мядзельскага раёна.

Кожны год тут праходзіць свята працы, песні і вызвалення, якое называлася «Нарачанскія росы», а з 1995 года — Рэспубліканскі фестываль «Пеўчае поле». (Паводле кнігі «Памяць. Мядзельскі раён»)

**Загадкавы камень.** На ўсходнім ускрайку вёскі Скары ў невялічкай хаце жыве Рэгіна Мілешка. У дварышчы яе дома ляжыць заглыблены ў зямлю вялікі камень, на якім фарбай намаляваны крыжы. Навошта яны? Гаспадыня тлумачыць

гэта так: «Камень ляжыць тут здаўна. Ён чароўны, у ім ёсць нейкая сіла. Гэта сапраўды так. Ужо некалькі разоў заўважала, што камень свеціцца. Але не ўвесь. На ім гарацць крыжы. Адзін раз у адным месцы, другі — у другім. Вось там, дзе яны свяціліся, я і намалявала фарбай так, як бачыла...»

Застаецца толькі здагадвацца, што гэта? Фантазія? Уяўленне? Ці, можа, праўда, дзіўнае святло?

Дарэчы, перад хатай спадарыні Рэгіны стаіць невялікая каплічка, якую гаспадыня змайстравала і паставіла сама...

**Валун-ахвярнік.** На паўднёвым беразе возера Мядзел, недалёка ад вёскі Волачак, каля вады ляжыць вялікі камень. Валун мае салідныя памеры, месцамі парос мохам і выглядае вельмі архаічна. Трэба думаць, што ляжыць ён тут ужо тысячы гадоў і многія людзі звярталі на яго ўвагу. Ды і не толькі звярталі ўвагу, але і пакланяліся яму, прыносілі ахвяры. На гэта паказвае паглыбленне, якое захавалася ў верхняй частцы каменя. Можна ўявіць, як у глыбокай старажытнасці, перад тым, як пайсці праз волак, падарожнікі-паганцы прыносілі ахвяры валуну і, заручыўшыся падтрымкай сіл прыроды, рушылі ў дарогу.

Што было тут даўней? Якія людзі бывалі на ўзбярэжжы возера Мядзел? Пра многае мог бы расказаць гэты камень. Але ён маўчыць. Маўчыць тысячы гадоў...



# Змест

*Навукова-папулярнае выданне*

**Пракаповіч** Ігар Міхайлавіч

**ПОШУКІ ЗАБЫТАГА ШЛЯХУ**

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Андрэева*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 10.01.2011. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ул.-выд. 2,19 арк. Ум. друк. 3,5 арк.
Наклад 500 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.